PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 33 (1892) ГОД XXXVII БЕЛАСТОК 16 ЖНІЎНЯ 1992 г. ЦАНА 2000 зл.

## ЧАС ЖНІВА

Жніво праходзіць нейк неўпрыкмет.

У тэлевізары ўжо яксьці перасталі гаварыць пра падрыхтоўку да «жніўнай кампаніі», перасталі паказваць камбайнераў і пустыя свірны, перасталі хвалявацца пра недахоп шпагату для снопавязалак і г.п. Яшчэ раз змяніўся час, а з ім і звычаі. Жніво ператвараецца з агульнаграмадскай «бітвы за хлеб» у мазолісты і зусім непрыглядны клопат вясковага люду, перад якім зусім непрыглядная перспектыва. Няма ўпэўненасці, ці ўмалоту знойдзецца месца ў якіх-колечы свірнах, няма ўпэўненасці, ці затраты на жніво /гадзіна працы камбайна - у сярэднім паўмільёна злотых, катушка шпагату - 100 тысяч/ хоць часткова кампенсуюцца ў далейшым. Плён працы сялянскіх рук стаецца штораз больш сумнявальны. Ці не ад гэтага якраз бярэцца тая сарамлівая моўкнасць вакол жніва ў масавых публікатарах?

Нашай Беласточчыне ад гэтага новага часу давядзецца пацярпець найбольш. На вёсцы ўсё яшчэ трымаецца даволі традыцыйная сістэма гаспадарання, заснаваная папярэднімі пакаленнямі, якую можна вызначыць акрэсленнем - «усяго патроху». А значыць, мусіць быць бульба /а як жа без яе?!/, жыта, авёс, крыху пшаніцы, з жывіны - карова, свінні, куры, гусі... Там, дзе ўсяго патроху, няма прадукцыйнай эфектыўнасці, якая характарызуе гаспадарку развітага капіталізму. Адчула гэта і Польшча ў цэлым, калі «збожжавая дапамога» Еўрапейскай супольнасці моцна надарвала эканамічную кандыцыю сельскай гаспадаркі ў краіне. Праца хлебароба ў Польшчы раптам сталася нерэнтабельнай. Тое самае, скажам, нямецкі ці галандскі фермер прадасць нашмат танней, і яму будзе аплочвацца. А нашаму - не. Праблема тут не толькі ў спецыялізаванасці фермерскіх гаспадарак, але і ў збалансаванасці абшару гаспадаркі з колькасцю рук, якія на ёй працуюць. Тып гаспадаркі на Беласточчыне - дзесятак-два гектараў, на якіх працуе гаспадар з жонкай - паволі знікне на-

Працяг на стар.4



## З-ПАД МОНТЭ КАСІНО —ПАД КРЫНКІ

Калі дзе зараз спяваюць шырокавядомую жаўнерскую песню, складзеную Рэф-Рэнам /Феліксам Конарскім/ «Czerwone maki na Monte Casino zamiast rosy piły polską krew», то спяваюць жа таксама і аб ім - васьмідзесяці шасці гадовым Уладзіміру Аўгустынчыку з Паўднёвага Вострава, што каля Крынак, дзе ён і цяпер яшчэ ўсё гаспадарыць на сваім палетку. І напэўна мала хто ў ваколіцы ведае, што на гэтай зямлі, побач з імі, «ходзіць» жывая гісторыя. Вітаючы Уладзіміра Аўгустынчыка на «дзень добры», людзі, мабыць, так і не ўсведамляюць таго, якую доўгую ды пакручастую дарогу прайшоў іх сусед, каб вярнуцца на сваю бацькаўшчыну.

Нягледзячы на свае пажылыя гады, Уладзімір Аўгустынчык фізічна трымаецца добра і ўсё хоча быць у першых радах, на першай лініі агню. Калі ў мінулым годзе адкрывалі ў Беластоку помнік жаўнерам Польскіх узброеных сіл на Захадзе, іменна яму даверылі быць прадстаўніком Звязу камбатантаў у калоне сцяганосцаў. Не зважаючы на тадышнюю звальваючую з ног спёку, у палявым мундзіры Уладзімір Аўгустынчык вытрымаў на гэтай ганаровай варце больш трох гадзін. Яго добра ведаюць у асяроддзі былых жаўнераў Польскіх узброеных сіл на Захадзе. Многія сябры з зайздрасцю глядзяць на бясцэнны збор архіўных фатаграфій, у якіх прагледжваецца яго ваенны шлях; на здымкі блізкія ягонаму сэрцу, тым больш, што на амаль кожным з іх і ён «там быў».Ёсць і найцікавейшыя для яго самога-тыяса Святой Зямлі.

- З дзіцячых гадоў я прабаваў уявіць сабе тыя ваколіцы, - гаворыць Уладзімір Аўгустынчык. - Мае



*Уладзімір Аўгустынчык /Англія, 1947 г/.*

Працяг на стар. 3

МАСКВА ЛЕПШАЯ, АЛЕ МЕНСК МІЛЕЙШЫ

## ТЭЛЕВІЗАР ЗАГАВАРЫЎ ПА-НАШАМУ

Неяк падвечар першага жніўня я не паверыў сваім вушам, уключыўшы тэлевізар на «савецкі» канал: пачуў беларускую мову, акурат «Калыханку» дзецям на дабранач. Замест Масквы загаварыў у маім доме Менск, што было абсалютна немагчымым у часы існавання вядомай імперыі, хоць экзатычныя нам праблемы далёкай Расіі мала каго тут цікавілі, акрамя асобаў, што займаюцца палітыкай. Затое справы Рэспублікі Беларусь надта ж сугучныя нашым, яны нярэдка і пераплятаюцца.

Здавалася б, даўно так павінна стацца... Беларускія актывісты Беласточкага краю прасілі ўсякіх высокіх БССРаўскіх візітантаў, каб магчы глядзець Беларускае тэлебачанне ў Беластоку гэтаксама, як Польскае - палякі ў Гародні. Але ўсё канчалася тыпова савецкімі абяцанкамі-цацанкамі ды «вікэндам» з агнішчам у Старой Белавежы. Спатрэбілася прыезду сюды аж но самога прэзідэнта Беларускай Дзяржавы, каб прымусіць слонімскіх манцёраў пераключыць блізкую ад нас узмацняльную станцыю з маскоўскай антэны на менскую менавіта, даючы нам шанц ведаць, што м.ін. дзеецца на Гарадзеншчыне з Брэстчынаю, замест слухаць пра беды расейскага безгалоўя ў Сібіры ці на Волзе...

Вядома, Расейская тэлекампанія «Астанкіна», праграмамі якое нас дагэтуль упарта частавалі, непараўнальна багацейшая на грошы ды цвёрдую валюту і таму ў сілах яна ангажаваць добрых журналістаў ды займальны відэаматэрыял набываць. Беларусы ледзь дыхаюць і гэта відаць па правінцыйным узроўні шмат-якіх нумароў. Аднак не заўсёды галотна будзе, загляне сонца і ў наша аконца.

А пакуль што некалькі заўвагаў рэцэнзента. Не трэба дадатковых выдаткаў, каб праграма Беларускага тэлебачання адбывалася, аднак, дынамічна, без доўгіх перапынкаў з каляровымі застаўкамі паміж паасобнымі перадачамі. Толькі некаторыя журналісты гавораць натуральнай беларускай мовай, без расійскага «сыкання» ды вясковых дыфтонгаў. Рэшта быццам давіцца словамі, усё роўна што дажоўваючы сліўку ці што ... Марудна па-дзядзькоўску, без экспрэсіі, сонна. Не ў кожнага ёсць здольнасць для плаўнага маўлення, але і не кожны мусіць абавязкова працаваць у тэлебачанні; хай пашукае сабе занятку, у якім можна і зусім не адзывацца. Бракуе Менску тэлевізійных індывідуальнасцяў.

Вельмі прыкрае ўражанне ад усякіх інтэрв'ю: журналіст гне па-беларуску, а адказваюць яму заядла па-руску, як служаку якойсьці акупацыйнай улады. Няўжо аніхто не ў моцы выціснуць з сябе хоць пару родных слоў? Няхай напіша іх перш на картцы паперы ды вызубрыць, калі ён такі тупы...

Маю прэтэнзію і да апаратараў: здымаюць не надта каб працавіта, рознапланава, з набліжэннямі і аддаленнямі, паказам дэтальных цікавінак... Паставіць вось сваю відэакамеру, бы той кулямёт, і шпарыць па адным і тым жа месцы, як нейкі местачковы фатограф шлюбную пару з вясельнікамі ў сваім смешным атэлье.

Перыфразоўваючы Алега Латышонка, я ўсё ж аптыміст. У двухмільённым Менску ёсць маса інтэлігентных людзей, якія раней або пазней зоймуць месца ўсіх тых нуднікаў. Беларускае тэлебачанне - гэта несезонная ўстанова і будзе самаразвівацца, самаўдасканальвацца /ці яна таго хоча, ці не/. І сама дзяржаўная ўлада зразумее ўрэшце рэшт, што можна ашчаджаць нават на танках з самалётамі, але ніколі на якасці тэлеэкраніка ў кватэрах мільёнаў. Да гэтага дайшоў калісьці дэ Голь, а за ім увесь палітычны Захад.

САКРАТ ЯНОВІЧ



# БЕЛАРУСКІЯ КАПІТАЛІСТЫ

**ЧАСТКА VI**

Здаецца мне, што беларускае сялянства ў Польшчы не павінна баяцца самой істоты капіталізму з тае прычыны, што і яно само з'яўляецца капіталістычнай структурай. Прыватная ўласнасць зямлі і сродкаў прадукцыі набліжае беларускае сялянства ў Польшчы да капіталізму. Аднак, вялікая раздробленасць зямлі, вельмі мізэрная колькасць гаспадарак тыпу фермерскага, прадукцыйны прымітыўны універсалізм, які выяўляецца ў прадукцыі ўсяго пакрысе, у ніякім выпадку не набліжае ўсходнебеластоцкай сельскай гаспадаркі да фермерскай сістэмы ў Швецыі, Германіі, ці Францыі. Стаім мы на двух супрацьстаўных полюсах. І ў гэтым сэнсе сялянская гаспадарка ў Польшчы намнога больш напамінае гаспадарку турэцкую ці нікарагуанскую чым англійскую ці амерыканскую.

Здавалася б, што ўсходнебеластоцкі селянін, будучы ў сваёй істоце „капіталістам", не павінен насіць у сваёй душы варожасці да тых беларускіх капіталістаў, якія вырастаюць у выніку тых перамен, што адбываюцца ў нас пасля ўпадку сацыялізму. Аднак, такая варожасць існуе. Чаму? Прычыны такой непрыхільнасці вельмі красамоўна выясніў мне шасцідзесяцігадовы беларускі селянін.

„Ты хочэш даказаць мне, што той капіталіст, катораго ты захвочываеш, гэто пачці што мой брат, бо я, як і ён, прыватны ўласціцель. А ты не бярэш пад увагу таго, што мы з ім ніякія не толькі не браты, але і не сваякі. А чом мы не сваякі? А том, што я вытвараю, я прадукую, я ўсё вытвараю сваімі рукамі: і збожа, і мясо, і сено, і малако. А што ён робіт? Ён сягодня робіт тое, што калісь рабілі жыды. Ён усё тое, што я выпрадукую, купляе ад мяне і перапрадае. Купляе як найтаней і перапрадае як найдаражэй. То які ён у чорта мой брат? Раней то ўсё ад мяне купляла панства (дзяржава — АБ). Ну, скажам, што яно таксама старалася ад мяне купіць як найтаней, а прадаць як найдаражэй. Але ж яно, калі на мне зарабляло, то той заробак звbooрочвало мне ў тым, што бясплатно мяне лечыло, вучыло, давало эмерытуры, будавало дарогі, будавало склепы, дамы культуры. І я з усяго гэтаго карыстаў. А чы твой капіталіст, забрабіўшы на мне, будзе ўсё гэто рабіць? Ні халеры. Пакажы ты мне тыя шпіталі, школы, дамы культуры або дарогі, каторы збудавалі нашы капіталісты. А як жэ, я ўжэ чуў, што будут будаваць дарогі і калі схочэш па іх ездзіць, то мусіш заплаціць за кажды кіламетр, от як гэто выглядае. Капіталіст усёй свой даход перавядзе ў загранічны банк і з працэнтаў будут жыць прыпяваючы яго ўнукі і праўнукі. Калі твае капіталісты добры, то ніхай яны пачнут не так, як дагэтуль, спекуляваць, а будаваць фабрыкі і дамы, каб маладыя людзі мелі работу і мелі дзе жыць.

Капіталістаў то я вельмі добрэ помню. Перад вайною спляжылі ўсю Белавежу. Мільёны штук дзерава паехала за граніцу. Тое самае бачым і сягодня. Дакукают усе нашы лясы і пакінут пустыню. Я там ні баюся гэтых капіталістаў. Стары ўжэ, якась дажыву, а от маладых то мне шкада. А і старых то таксамо прыціснут. Ужэ прыціснулі. Што ты за тую рэнту купіш? Калісь бывало то можна было накупіць за рэнту пяць мяшкоў тавараў, а сягодня то ўсё ў торбачку змесціш. Так, скончылася бабці сране! І то у ўсім гэтом капіталісты віноваты. Ніхай яны, сукіны сыны, закасают рукавы і возьмуцца да работы. Тады яны мне будут братамі, а так то яны спекулянты, цыганы, жулікі і больш нічого."

Трэба сказаць, што многія іншыя беларусы, хаця і не так каларытна, як вышэй прыведзены, выказваюць свае адмоўныя ацэнкі бізнесменаў.

**АЛЕСЬ БАРСКІ**

# ТЭЛЕФАКСАМ З МЕНСКА

### СЕЛІ НА МЕЛЬ

Небывалая ў гісторыі Беларусі засуха вымусіла пайсці ў незапланаваны адпачынак супрацоўнікаў Гродзенскага рачнога порту. Штодзень узровень вады ў Нёмане падае на тры сантыметры, і плаваць па абмялеўшай рацэ не могуць не толькі цяжкія баржы, але і спрытныя пасажырскія катэры. Дарэчы, апошні раз з-за засухі Нёман быў несуднаходным у 1881 годзе.

### РАДЫЯЦЫЙНАЯ «БОМБА» БЛУКАЕ ПА ПАЛЕССІ

Незвычайнае злачынства здарылася ў мястэчку Мікашэвічы, што непадалёку ад Лунінца.

З вытворчага завода «Гарант» нехта ўкраў прыладу з радыяцыйным элементам цэзій - 37. Прычым, доза радыяцыі вельмі небяспечная для жыцця. Міліцыя збілася з ног у пошуках гэтай радыяцыйнай «бомбы».

### НЕБЯСПЕЧНА, АЛЕ ЎТУЛЬНА

Больш трохсот сем'яў, што пражываюць у забруджаных Чарнобылем раёнах Магілёўшчыны, адмовілася перасяляцца ў «чыстыя» ваколіцы.

Адна з асноўных прычын - на новым месцы ім вельмі цяжка ўладкавацца на працу. Увогуле адносіны мясцовых жыхароў да перасяленцаў не ва ўсіх рэгіёнах Беларусі ветлівыя. Вось і вырашылі небаракі дажываць свой век у родных хатах. Хоць і небяспечна, але ўтульна.

### СІЛКОМ ЛЮБІМ НЕ БУДЗЕШ

Толькі трыццаць працэнтаў насельніцтва Беларусі аказвае давер да цяперашніх дэпутатаў, як сведчаць вынікі сацыялагічнага даследавання, праведзенага адмысловай службай Вярхоўнага Савета. І ўсё ж, на думку Старшыні парламента рэспублікі Станіслава Шушкевіча, цяперашні Вярхоўны Савет здольны зрабіць больш і хутчэй, чым новы.

### АБ ЛОЗУНГАХ ЗЛУЧАНЫХ ШТАТАЎ ЕЎРОПЫ

На мінулым тыдні ў Менску адбылася першая канферэнцыя Транснацыянальнай Радыкальнай партыі.

Удзельнікі гэтага форуму абмяркоўвалі новыя магчымасці сваёй работы. У прыватнасці, беларускія радыкалы намецілі наступныя накірункі сваёй дзейнасці - барацьба за адмену смяротнага пакарання, стварэнне Злучаных Штатаў Еўропы, а таксама адмова ад вайсковых фармаванняў і ўвядзенне альтэрнатыўнай службы.

Праўда, наўрад ці ўдасца радыкалам ажыццявіць сваю праграму ў бліжэйшы час, паколькі прыхільнікаў Транснацыянальнай партыі ў Беларусі ўсяго каля трыццаці.

### АМЕРЫКА І БЕЛАРУСЬ БУДУЦЬ СУПРАЦОЎНІЧАЦЬ У ГАЛІНЕ МЕДЫЦЫНЫ

Днямі Менск наведала група медыкаў са Злучаных Штатаў Амерыкі. Падчас гэтага візіту амерыканскія ўрачы падпісалі пагадненне аб дзейсным партнёрстве з менскай Гарадской клінікай. У рамках гэтай дамовы амерыканскія медыкі абавязаліся дапамагчы беларускім калегам сучасным абсталяваннем і падзяліцца навуковай інфармацыяй.

Дарэчы, у ЗША ўжо распрацавана цэлая праграма партнёрства з медыцынскімі ўстановамі Беларусі. На яе ажыццяўленне Амерыканскае агенцтва па пытаннях міжнароднага развіцця плануе выдаткаваць каля трох мільёнаў долараў.

**МІКОЛА ДЗЯБЁЛА**

# З мінулага тыдня

**З 1 жніўня г.г.** на трэцім канале, на якім да гэтай пары трансляваліся перадачы маскоўскай тэлекампаніі «Астанкіна», **можна глядзець праграму Беларускага тэлебачання** /заўвагі на гэту тэму чытайце на стар. 1/. Наша рэдакцыя намерваецца друкаваць тыднёвую праграму БТ і дзеля гэтага вядзе перамовы з кіраўніцтвам тэлецэнтра ў Гродне.

**Міністры гаспадарчага супрацоўніцтва з заграніцай Польшчы - А. Арандарскі і Расеі - П. Авен** падпісалі ў Варшаве пратакол у справе польска-расейскіх гандлёвых і гаспадарчых зносін. Было, між іншым, узгоднена, што неўзабаве будзе падрыхтаваны праект трактата паміж Рэчыпаспалітай Польскай і Расейскай Федэрацыяй аб гандлёвых і гаспадарчых зносінах, які возьме пад увагу новыя варункі пераходу абедзвюх краін да рыначнай гаспадаркі. Бакі ўзгоднілі таксама спосабы ўрэгулявання ўзаемных даўгоў і абавязацельстваў.

**Прымас Польшчы кардынал Юзэф Глемп нанёс візіт у Маскву і сустрэўся з патрыярхам Маскоўскім і ўсяе Русі Алексіем II.** Пасля паўтарагадзіннай размовы кардынал Ю. Глемп сказаў, што ў стасунках паміж польскім Рымска-каталіцкім касцёлам і рускай Праваслаўнай царквою адбыўся вялікі крок наперад, калі не пераломны момант. У хуткім часе патрыярх Алексій II наведае Польшчу на запрашэнне мітрапаліта Варшаўскага і ўсяе Польшчы **Васілія.**

**На Беларусі актуальна прабывае 74 польскіх рымска-каталіцкіх ксяндзоў**, у тым ліку 50 - згодна з пагадненнем, падпісаным раней Савецкім Саюзам. 24 ксяндзы прыехалі прыватным шляхам і беларускі бок сцвярджае, што няма юрыдычных падстаў, якія дазвалялі б ім выконваць душпастырскія абавязкі. «Аднак мясцовыя ўлады, згаджаючыся на пабыўку душпастыра, прымаюць гэтым самым да ведама факт выканання ім рэлігійнай місіі», - сказаў упаўнаважаны беларускага ўрада па справах веравызнанняў **Аляксей Жылінскі.**

**Прэм'ер-міністр Літвы Аляксандр Абішаля** ў размове з паслом Рэчыпаспалітай Польскай **Янам Відацкім** паабяцаў адтэрмінаваць выкананне пастановы моўнай камісіі, якая загадала польскамоўнаму друку ў Літве ўжываць літоўскія назвы мясцовасцей. Сродкі інфармацыі, якія не падпарадкаваліся б гэтай пастанове, мелі прыцягвацца да адказнасці.

**Балаціравацца на пост прэзідэнта Рэспублікі Беларусь плануе 56-гадовы Аляксандр Прушынскі**, сын вядомага польскага пісьменніка Ксаверыя Прушынскага, чалавек вельмі супярэчлівай натуры і фантазёр. Па прафесіі ён спецыяліст па так званай дазданай вартасці /метад зніжэння коштаў прамысловай прадукцыі/. У сямідзесятых гадах эміграваў ён з Польшчы ў Канаду, дзе выдаваў польскамоўны часопіс нацыяналістычнага і антысеміцкага характару. Падчас першых па Круглым стале ў 1989 г. выбараў прыехаў ён у Польшчу, каб балаціравацца ў Сенат, але неназбіраў дастатковай колькасці подпісаў. Аляксандр Прушынскі падаў ужо прашэнне аб прысваенні яму грамадзянства Рэспублікі Беларусь, каб восенню магчы прыняць удзел у выбарах, а зараз выдае на Беларусі газету "Прызмат". Якія да гэтай пары былі дачыненні А. Прушынскага да Беларусі, пытае «Газета Выборча», невядома.

# ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"

* Каго помню і люблю- успамін Дануты Бічэль аб Аляксею Карпюку.
* У краіне цудаў, брудаў і свіней.
* Беларускія ліцэісты над Балтыкай.
* Белавежскі цуд замаляваны.
* Трасянкі польская, расейская і .... „незалежная".

# «САМАСЕЙ» ЯНОВІЧА

Пра тое, што менская «Мастацкая літаратура» нарэшце - пасля дзесяці гадоў - адважылася выпусціць у свет кніжку Сакрата Яновіча «Самасей», у «Ніве» ужо згадвалася пяром Яна Максімюка. «Самасей», праваляўшыся ў кабінетах бальшавіцкага ЦК, раптам перастаў быць небяспечны партыі і народу, адначасна з дэлегалізацыяй КПСС. І вось кніжка гэтая ўжо прадаецца ў сакратарыяце рэдакцыі «Ніва», а каштуе ўсяго дваццаць тысяч злотых.

Дыспут над ёю плануе правесці ў нядзелю **27 верасня** літаратурнае наша аб'яднанне «Белавежа», аб чым загадзя паведамляем, каму гэта цікава. Спецыяльна прыедзе з Менска дзеля таго сам рэдактар Яновічавага выдання, спадар Уладзіслаў Рубанаў, які рыхтуе грунтоўнае выступленне не толькі наконт «Самасея».

/ся/

# З-ПАД МОНТЭ КАСІНО ПАД КРЫНКІ

*Працяг са стар. 1*

ўяўленні развіваў у школе бацюшка, які на ўроках Закону Божага цудоўна апавядаў пра Святую Зямлю і які, як мне здавалася, толькі ўзмацняў мае няспоўненыя мары. Ніхто, аднак, не знае свайго лёсу. Дык вось і я не патрапіў прадбачыць, што на дваццаць пару гадоў пазней буду і я хадзіць па той зямлі сваімі нагамі. Ваенная завіруха закінула мяне туды. Склалася так шчасліва, што быў пры мне фотаапарат. Вось я і ўвекавечыў мноства месц, звязаных са Старым і Новым Запаветам. Гэтыя каштоўныя здымкі захаваліся дагэтуль у мяне і з'яўляюцца найдаражэйшым маім скарбам. Кожная фатаграфія падрабязна мною апісана, бо калісь, калі мяне не стане, няхай застанецца як дакумент для патомных...

З хваляваннем Уладзімір Аўгустынчык аглядае свой мундзір і расшыфроўвае паасобныя планкі: Krzyż Walecznych, Medal Wojska Polskiego, Gwiazda za Włochy, Gwiazda za Wojnę, Medal Króla Jerzego /1939/ - гэта толькі некаторыя. - Для капрала Уладзіміра Аўгустынчыка хопіць! - жартуе. Ён не страціў ранейшага гумару і лагодных адносін да жыцця, хоць яно не шкадавала яму пакут і неспадзяванак.

Калі ў 1921 годзе памёр бацька і неўзабаве адзін з трох братоў, а другі адыйшоў на жончыну гаспадарку, абрабляць «бацькаўшчыну» давялося яму з маткаю. У Войску польскім служыў у гадах 1927-1929, у IV Дывізыёне коннай артылерыі ў Сувалках. Вярнуўшыся з арміі, жаніўся і быў бы доўга, мабыць, шчаслівы, каб жа не вайна. 24 жніўня 1939 года быў мабілізаваны. Аставіў жонку і двух сыноў. Як жаўнера III Палка цяжкай артылерыі накіравалі яго ў Вільню, адкуль - ужо на фронт пад Пётркуў-Трыбунальскі. Але адтуль адступалі ў напрамку Варшавы, Брэста і далей у бок Баранавіч. 18 верасня 1939 года непадалёку Краснаполя ён быў палонены саветамі. Вязня Уладзіміра Аўгустынчыка накіравалі ў шахту капаць жалезную руду.

- Гэта была забойчая праца, звыш сіл, хоць трактавалі нас досыць пачціва, - гаворыць спадар Уладзімір.



*Адкрыццё помніка Польскім узброеным сілам на Захадзе. (Беласток, 1990 г.).*



*Уладзімір Аўгустынчык / у форме/ з архіепіскапам Савай (Беласток, 1990г.).*

- Пасля перавезлі яго на Падолле, дзе працаваў пры пабудове лётнішча. І хоць праца таксама не была лёгкай, але ж з'явілася маральная падмога - два разы наведала яго жонка.

- Помню тое, як сёння, - успамінае Уладзімір Аўгустынчык. - Была нядзеля 21 чэрвеня 1941 года, калі мы ўбачылі першыя нямецкія налёты і даведаліся аб савецка-нямецкай вайне. Тады, пад канвоем, разам з братамі па няволі, мы пехатою прайшлі праз усю амаль Украіну аж да Палтавы. Там заладавалі нас на цягнікі і вывезлі ў Старабельск. І там нас амнісціравалі. Я зноў пайшоў служыць у Войска польскае, быў у 6 Палку лёгкай артылерыі ў 5 Крэсавай дывізіі пяхоты. Там вось пачыналася мая новая дарога, па якой прайшло многа польскіх жаўнераў - дарога на Блізкі Усход, у Іран, Ірак і праз Трансіарданію ў Палесціну.

Уладзімір Аўгустынчык ад 23 сакавіка 1944 года браў удзел у барацьбе II Корпуса Войска польскага ў італьянскай кампаніі. Прымаў удзел у многіх бітвах, м.ін. пад Сэнт Бяджыё - Цэрэбасоля, пад Монтэ Касіно, дзе быў ранены, і пад Монтэ Каіро. Змагаўся ў вядомай бітве за Анкону, за Рыміні, пад рэчкай Сэніо і ўрэшце таксама за Балонію.

- Я беларус, - падкрэслівае Уладзімір Аўгустынчык. - Польскія сябры шанавалі мяне, нас не дзяліла ні нацыянальнасць, ні веравызнанне. У нашай 5 Крэсавай дывізіі пяхоты было шмат беларусаў, каля трохсот. Духоўную апеку даваў нам генерал епіскап Сава з Лондана і шэсць праваслаўных святароў. Калі мы не былі на фронце, то праваслаўныя святы мы адзначалі па нашаму календару. Гэтыя нетыповыя, ваенныя святы я таксама ўвекавечыў на многіх здымках.

- У Польшчу, сюды - у Паўднёвы Востраў, на бацькаўшчыну, я вярнуўся ў 1947 годзе. Ой, далёкімі дарогамі давялося мне ісці да яе...

Сёння Уладзімір Аўгустынчык, герой з-пад Монтэ Касіно марыць аб тым, каб паехаць у санаторый. Ніколі не быў. Але каб аформіць такую справу, трэба - аказваецца - прайсці шлях не менш доўгі, чым той ваенны... Але жыве надзеяй, што мара гэта споўніцца. І чакае Сусветнага з'езда ветэранаў, які адбудзецца ў Варшаве сёлета /14-16 жніўня/. Паедзе, каб сустрэцца з сябрамі - асабліва з тымі, якім лёс не дазволіў у свой час вярнуцца на родную зямельку.

**ТЭРЭСА ЗАНЕЎСКАЯ**



# ПАДУМАЦЬ ПРА БУДУЧЫНЮ

**«ЖЫХАРЫ НАВАКОЛЬНЫХ ВЁСАК ГАЙНАЎКІ!**

*Ці ведаеце вы, што паміж Горным, Прагалямі, Хітраю, Баркам, Пасечнікамі, Хвішчаём і Юдзянкай плануецца стварэнне вялікага сметнішча горада Гайнаўкі?*

*Многа зямлі індывідуальных гаспадароў увойдзе ў ахоўную зону, што значыць - у зону найбольшага скажэння. Назаўсёды забрудзіць гэта зямлю не толькі ў зоне, але і ў шырокай ваколіцы. Будзем атручвацца брудным паветрам, вадой з калодзежа, малаком, пладамі зямлі. Такой яды ніхто ў нас не купіць. Будзем жыць вакол смярдзючага гарадскога сметнішча. Пляма забруджэння будзе пашырацца з кожным годам. На гэтым сметнішчы знойдуцца хімікаліі, знішчаючыя прыроду і здароўе чалавека.*

*Не можам дапусціць да мясцовага «Чарнобыля»! Мусім ратаваць сябе і сваіх дзяцей!*

*Не дайма чужым вырашаць лёс нашай зямлі, знішчаць загаспадараную і экалагічна чыстую зямлю!*

*Не дазвольма замяніць у сметнік зямлю, на якой праліваЛі пот нашы дзяды і прадзеды!*

*Калі самі не возьмемся, ніхто нас не абароніць!"*

Такую двухмоўную, польска-беларускую, лістоўку з драматычным зместам распаўсюджвае ў Гайнаўцы і ваколіцы група маладых людзей, якіх умоўна можна назваць грамадскім камітэтам пратэсту супраць лакалізацыі новай звалкі смецця ў гэтым якраз месцы. Маладыя людзі апратэстоўваюць рашэнне Гарадской управы і збіраюць подпісы ў падтрымку свайго пратэсту, у першую чаргу сярод жыхароў гэтых мясцовасцяў, але і гайнаўлян ды іншых зацікаўленых.

Справа пачалася з таго, што стары гарадскі сметнік, каля вёскі Парыева, аказаўся замалы для разрастаючайся Гайнаўкі. Улады горада пачалі шукаць новае месца. Выбралі якраз аблогу і невялічкі лясок між вёскамі Хітрая і Прагалі ды вуліцай Горная ў Гайнаўцы.

Праект новай гарадской звалкі смецця апрацавала Беластоцкае бюро камунальнага будаўніцтва. Займаць яна будзе плошчу 9 гектараў. Да таго яшчэ 500-метровая санітарная зона вакол. У гэтай зоне забараняецца араць зямлю, закладаць сады, зялёныя пашы, вырошчваць агародніну.

Спачатку праект прадбачваў у гэтым месцы таксама звалку індустрыяльных адпадкаў ды хаванне мёртвых звяроў. Але на гэта не дазволіла Аддзяленне аховы асяроддзя Ваяводскай управы ў Беластоку. Наказвае яно таксама вымасціць дно сметніка глінай, бо грунт у гэтым месцы не дае гарантыі забеспячэння вады, якою карыстаецца навакольнае насельніцтва. Гайнаўка мае карыстацца гэтым сметнікам 9 гадоў.

Дакументацыя апрацоўвалася ў гадах 1990-91, а падрыхтоўчыя працы на месцы звалкі смецця - прадбачвалася - будуць выкананы да 1993 года.

Грамадскі камітэт пратэсту супраць сметніка ўзнік у маі гэтага года, калі справа пачала набываць памалу вядомасць. Практычна ўсё ўжо вырашылася ў кабінетах, толькі не пачалася яшчэ працы ў гэтым месцы. На гэтую акалічнасць і ўскладваюць надзею маладыя людзі і вераць, што ўдасца ім прадухіліць экалагічную катастрофу гэтага кутка падгайнаўскай зямлі. А ён сапраўды прыгожы. У гэтым месцы працаўнікі Белавежскага нацыянальнага парка планавалі заснаваць запаведнік балотных птушак.

Гэты сметнік - зусім не развязка праблемы гарадскіх адпадкаў, аргументуюць ініцыятары пратэсту. Што будзе праз 9 год, якую новую тэрыторыю экалагічна знішчыць Гайнаўка? Справу знішчэння смецця прапануюць развязаць інакш, больш глабальна і цывілізавана. Ёсць жа новыя тэхналогіі утылізацыі адпадкаў, трэба толькі над гэтым сур'ёзна задумацца. Можа кумусьці здадуцца яны дарагімі, але ахова натуральнага асяроддзя заўсёды ў перспектыве аплочваецца. Можна ж, калі Гайнаўка не мае сродкаў, дамовіцца з Бельскам, ці яшчэ з Чаромхай або Кляшчэлямі і супольна арганізаваць экалагічна бяспечны спосаб утылізацыі адпадкаў.

Гэта, зразумела, толькі ідэя, а не гатовы праект рашэння справы. Але ці можам на яе глядзець толькі як на фантазію маладых людзей? А можа, гэта сапраўды сур'ёзная думка пра будучыню нас усіх.

Шкада толькі, што не вельмі каб прыслухоўваліся да іхняга голасу ва ўстановах. Не дапамаглі таксама тры сотні подпісаў пад іхнім пратэстам. У Гарадской управе ў Гайнаўцы далі ім адчуць, каб не дурылі сабе галавы справай, якая ўжо вырашана. У Беластоку, у Ваяводскай управе толькі разлажылі рукі, маўляў, што мы можам...

Усё паказвае на тое, што ў нас сапраўдны экалагічны рух не хутка яшчэ народзіцца. А яго поспехаў давядзецца чакаць напэўна яшчэ даўжэй. Бо, відаць, першая такога тыпу акцыя закончыцца паражэннем. Хацелася б, каб хаця зрабілі высновы з гэтага ўсе бакі канфлікту, ды і людзі збоку. Праблема экалогіі будзе вяртацца да нас як бумеранг, усё пашыраючы свой абсяг.

**МІКОЛА ВАЎРАНЮК**

## БІБЛІЯГРАФІЧНЫ КУТОЧАК


DARSKI J.: Kronika litewska, białoruska i ukraińska. - **Kultura 1990 nr 10 s. 118-123, nr 11 s. 89-93, nr 12 s. 102-106.**

JANOWICZ S.: Białoruś-Białoruś. Rozm. przepr. J. Kania. - Inspiracje 1990 nr 8/9 s. 2-4, il.

KABATC E.: Białoruskie przebudzenie, czyli od Skaryny do Bykowa. - **Literatura na Świecie 1991 nr 8/9 s. 250-253.**

KILIJANEK K.: Zwątpienie przegląda się w Niemnie. /Sytuacja gospodarczo-polityczna/. **Prawo i Życie 1992 nr 17 s. 13, il.**

KOWALCZYK J.: Pierwsze białorusko-polskie seminarium w Mińsku, 18-20 X 1988 /poświęcone sztuce/. - **Biuletyn Historii Sztuki 1990 nr 3/4 s. 459-462, il.**

MIRONOWICZ E.: Między białym a czerwonym. Białorusini w Polsce. - **Przegląd Kresowy 1992 nr 1 s. 29-30.**

MIRONOWICZ E.: "Pogłębienie patriotycznej jedności narodu" na Białostocczyźnie. /Mniejszość białoruska/. - **Przegląd Kresowy 1991 nr 5/6 s. 42-43.**

MIRONOWICZ E. Świadomość narodowa społeczności prawosławnej Białostocczyzny. - **Zeszyty Naukowe Instytutu Nauk Politycznych UW 1991 z. 17 s. 109-142, tab.**

MOROZOW W.: Działalność architektów warszawskich i wileńskich na Białorusi w końcu XVIII i 1. połowie XIX wieku. T. J.M. Michałowski. - **Biuletyn Historii Sztuki 1990 nr 3/4 s. 267-287, il. rys. Res.**

NIKIFOROWICZ W.: Białoruś: lekcja martwego języka? Rozm. przepr. M. Zinowiec. - **Dialog 1991 nr 9 s. 138-140.**

PISKUN L., Zinowienko G.: Paleobiogeography of the Lower Cambrian deposits of Byelorussia. - **Przegląd Geologiczny 1992 nr 2 s. 90-93, rys. tab.** Streszcz.

Pomniki mastackaj kultury Biełarusii. Mińsk 1989. Rec. BERNATOWICZ T., **Biuletyn Historii Sztuki 1990 nr 3/4 s. 400-404, il.**

SENIUCH C.: Ziemia udręczona, ziemia żywa. /Literatura białoruska/. **Literatura na Świecie 1991 nr 8/9 s. 7-15.**

SENIUCH C.: Jaki to ma sens. Impresje białoruskie. - **Konfrontacje 1992 nr 3 s. 29.**

STĘPNIAK W.: Problemy spuścizny archiwalnej w stosunkach Polski z Białorusią, Litwą, Ukrainą i Rosją. - **Sprawy Międzynarodowe 1992 z. 1/2 s. 105-114.**

TARASZKIEWICZ B.: Białoruskie postulaty polityczne. - **Literatura na Świecie 1991 nr 8/9 s. 244-273.**

WRÓBEL P.: Kształtowanie się białoruskiej świadomości narodowej a Polska. Warszawa 1990. Rec. JAGIEŁŁO M., **Przegląd Powszechny 1992 nr 1 s. 116-132.**

ZIÓŁKOWSKI M.: Bezdroża białoruskiej niezależności. - **Więź 1991 nr 2 s. 57-63.**


P.C.

### ПАПРАЎКА

**Мікалая Панфілюка** і чытачоў перапрашаем за тое, што з-за камп'ютэрнага фокуса прапаў яго подпіс пад матэрыялам „Што пасеялі, тое пажынаюць", змешчаным на 5 стар. „Нівы" н-р 32 ад 9 жніўня 1992 г.

*Рэдакцыя*

# ЯК НАС ПЕРАПРАШАЛІ

Справа паклёпнага артыкуласправаздачы ў «Кур'еры Падляскім» «Dzwony od prezydenta» /аб ёй мы пісалі тры тыдні таму/ як быццам знайшла свой эпілог. Беластоцкі ваявода адмовіўся прыняць якія-колечы меры супроць абразы сваіх суграмадзян-беларусаў. Беларускае дэмакратычнае аб'яднанне, перш чым падаць у суд на журналіста Гeроніма Ваўжыньскага, запрапанавала яму змясціць у сваёй газеце перапросіны. Аўтар пагадзіўся, і такі тэкст паявіўся ў «Кур'еры Падляскім» н-р 147 ад 31.07-2.08 г.г. /змяшчаем яго побач/. Усё, здаецца, як трэба. Аўтар, маючы перад сабою пагрозу забароны выконвання журналісцкай прафесіі, публічна пакаяўся. Але... не быў бы гэта «Кур'ер Падляскі», калі б не спрабаваў і пры такой нагодзе пагрэць сабе рукі над антыбеларускім цяпельцам. На апошняй старонцы ў тым самым нумары рэдакцыя змясціла тэкст пад назовам «Półpiśmienna hołota» /таксама яго прыводзім/. Тэкст гэты ўяўляе сабою хутчэй за ўсё вынік калектыўнай рэдакцыйнай натугі «Кур'ера», чымсьці аўтэнтычны допіс ад чытача. Як бы яно ні было, рэдактары «Кур'ера» пастараліся нейк нейтралізаваць свае публічныя перапросіны, зняшчаючы «беларускі голас» з Беластока. Во, паглядзіце, каго мы перапрашаем - людзей яўна варожых польскай грамадскасці і тым палітычна-грамадскім зменам, што наступілі ў краіне ў апошнія гады. Значыць, «Кур'ер Падляскі» выстаўляе сябе ў ролі ахвяры тупых беларускіх апартуністаў...

Маўляў, мы далі промах, але ж ці варта ўсур'ёз трактаваць людзей, якія атручаны нянавісцю да польскасці, якім усё яшчэ хочацца вяртання камуністычнага «45-lecia» і гэтаму падобнае?

Нічога, па сутнасці, не змянілася... Нічога рэдактары «Кур'ера» не зразумелі пасля гэтай справы... Якімі былі, такімі і засталіся... Мабыць, і сапраўды - półpiśmienna hołota?..

Я.М.

### Owiadczenie

Oświadczam, że nigdy nie było moim celem obrażanie Białorusinów Białostocczyzny ani jątrzenie w stosunkach polsko-białoruskich. Nie jestem nacjonalistą, przepraszam więc tych, którzy poczuli się obrażeni moim artykułem pt. "Dzwony od prezydenta" zamieszczonym w "Kurierze Podlaskim" nr 123 z dnia 20 czerwca br. Użycie określenia "nasz prezydent" w stosunku do przewodniczącego Rady Najwyższej Białorusi, Stanisława Szuszkiewicza, przyznaję, mogło obrazić godność obywateli RP mieszkających w woj. białostockim.

Nie znam języka białoruskiego, stykam się z nim dopiero od pięciu lat, a więc zapewne to spowodowało, że wypowiedzi uczestników spotkania tumaczyłem nieprawidłowo. Przepraszam uczestników spotkania, działaczy Białoruskiego Zjednoczenia Demokratycznego oraz pozostałe stowarzyszenia białoruskie i Czytelników"KP" za popełnione błędy merytoryczne zawarte w w/w artykule. Nie będę ich przypominał i wyjaśniał, gdyż były one już przedstawione na łamach prasy. Chciałbym jednak podkreślić, że nikt z uczestniów spotkania nie domagał się przyłączenia Białegostoku do Białorusi.

Rozumiem zdenerwowanie moich współrodaków z Białostoczczyzny. Przykry to dla mnie incydent. Dotychczas współpraca ze środowiskami białoruskimi układała się bardzo dobrze. Mam tutaj wielu przyjaciół i znajomych, których cenię i szanuję. Myślę, że nadal będziemy współpracować z pożytkiem dla dobra Białostocczyzny i „Kuriera Podlaskiego".

HIERONIM WAWRZYŃSKI

### Półpiśmienna hołota

Dlaczego Pan ubliża Białorusinom poprzez przedstawienie ich w tonacji ironicznej pogardy? W jakim celu sieje Pan nienawiść, jątrzy, rozbudza antagonizmy? Postępowanie Pana - to jawna prowokacja, próba zniesławienia, intryganctwo, rozrabiactwo, działanie nikczemne, prymitywne wynikające ze złej woli i wrogości do narodu białoruskiego. Tak postępuje jedynie skrajny cham, zdeklarowany łajdak, ciemniak kołtuniasty zacofanego wyzyskiwania feudalnego (Kościoła katolickiego). Należy Pan do półpiśmiennej hołoty rujnującej dzisiaj dorobek społeczeństwa i ciężką 45-letnią pracę trzech pokoleń. To Pan wspólnie z ludźmi podobnymi doprowadziliście w naszym kraju do piekła bezrobocia, poniżenia, głodu, po prostu bryndzy, zamiast zapowiadanego buńczucznie raju. Dzięki Wam Polska stała się krajem nieobliczalnym i dzikim, w którym zapanowało chamstwo, ciemniactwo, bezrobocie, bieda... Dzisiaj szukacie potrzebnego Wam kozła ofiarnego w celu klarownego wyjaśnienia waszej klęski. Jest to farsa, to również sygnał ciężkiego schorzenia naszego społeczeństwa pod rządami solidarnościowymi i dyktatura klerykalna. To „reformy" kierujące się ku Średniowieczu, zadziwiające całą Europę. Już prawie nagminnie jeden drugiego kąsa i pożera, a w niedalekiej przyszłości, jeżli tak dalej sprawy się potoczą, wzajemnie zjedzą. Uprzejmie również informuję, że jeśli nie zostanę przeproszony wraz z innymi - nigdy Waszego "Świerszczyka" do ręki nie wezmę.

Janusz Jakubowski
Białystok

# ЧАС ЖНІВА

*Працяг са стар. 1*

заўсёды. Бо яму няма эканамічнай перспектывы.

У Ляхах, што ў Нараўскай гміне, пад Ільёю людзі паспелі ўжо зжаць жыта і бальшыню аўсоў. Надвор'е гэтым летам выпала засушлівае - збожжа праспела даволі рана. Жыта наогул касілі камбайнамі - штораз менш рук да працы, штораз цяжэй пазбіраць людзей на абмалоты ўвосень. Аўсы выспявалі не ў адну пару, таму іх касілі снопавязалкамі - хай дойдуць на іржышчы, у ляшках. Ляхі - адна з тых бесперспектыўных вёсак, якіх у нашым рэгіёне ўсё прыбывае. Пражывае ў ёй пару малодшых гаспадароў, астатнія - людзі ў гадах, якія ўжо перайшлі або збіраюцца пераходзіць на пенсію. Але пакуль што ўсе загоны абсяваюцца. Бацькі перапісваюць зямлю на сваіх дзяцей, што зачапіліся на працу ў горадзе, і далей на ёй працуюць. Некаторыя аддаюць зямлю ў арэнду тым малодшым аднавяскоўцам, якія яшчэ не здаліся і змагаюцца з неспрыяльнай эканомікай. У суботы і нядзелі з горада прыязджае ў вёску радня - пасобіць бацькам звезці салому і снапы ў абарогі або ў клуні. Вёска яшчэ нейк жыве. Але - як доўга?

Успамінаецца мне шасцідзесятыя гады, калі ўвесь мой свет падшпарка замыкаўся ляхоўскімі загонамі і ўзлескамі. Жніво тады мела ў сабе нешта ад святочнага рытуалу - вельмі важна было, каб з першага зажыну сабраць каласы на «кветку», якая потым будзе ўвесь год вісець у каморы ў куце ажно да наступнага жніва; паганяючы коней у бацькавай касілцы, я абавязкова пільнаваў, каб у апошнім жытнёвым закосе пакінуць жменьку каласкоў - «перапяліцу» - якая потым звязвалася ўверсе і аздаблялася васількамі. Мама казала мне, што ўначы сюды прыбягае зайчык і пакідае падарунак для дзяцей. І нейк светла і радасна было на душы, калі наступнага дня я знаходзіў пад той «перапяліцай» пачак гарбатнікаў у бліщчастым цэлафане /хоць ужо і не надта верыў, што зайчыкі таксама купляюць у гародчынскай краме/.

Разам з нашай вёскай знікае ўвесь наш традыцыйны ўклад жыцця, які з нас зрабіў такіх, якімі мы ёсць. Сёння, наведваючы хаты свайго дзяцінства, мы сустракаем пастарэлых нашых бацькоў, іхнія зморaныя позіркі і сівыя валасы, і адчуваем нейкую шчымлівую віну. Мабыць, таму, што сёння няма радасці ад жніва. Не зведаюць яе і нашы дзеці, народжаныя і выхаваныя ў гарадах. Камбайны не пакідаюць «перапяліцаў», да якіх прыбягаюць зайчыкі.

ЯН МАКСІМЮК

### ХТО ПАДАБАЕЦЦА СТУДЭНТАМ ГАРОДНІ

Мясцовая газета «Гродненские Новости» правяла апытанне студэнтаў Універсітэта з мэтай выявіць найбольш папулярнага, на іх думку, чалавека апошняга дзесяцігоддзя. Усяго паступіла 1.350 адказаў, якія размеркаваліся наступным чынам:

1. Міхаіл Гарбачоў - 350 галасоў,
2. Андрэй Сахараў - 203,
3. Джордж Буш - 106,
4. Ян Павел II - 97,
5. Барыс Ельцын - 96,
6. Віктар Цой - 91,
7. Жан-Клод Ван Дам - 80,
8. Лех Валэнса - 78,
9. Арнольд Шварцэнэгер - 72,
10. Дыега Марадона - 65,

Таксама называліся спевакі Андрэй Макарэвіч і Ігар Талькоў, а яшчэ Майкл Джэксан, Сільвэстр Сталлонэ, Садам Хусэйн і расейскі нацыянал-фашыст Уладзімір Жырыноўскі...

У першай дзесятцы вельмі цікава бачыць спевака Віктара Цоя ў суседстве з Барысам Ельцыным, а «супэрмена» Арнольда Шварцэнэгера - з Лехам Валэнсам. Кідаюцца ў вочы як абмежаванасць інтарэсаў будучай гарадзенскай эліты, - кіно, музыка, палітыка, - так і беднасць уяўленняў ды надзвычай вузкі светапогляд.

АЛЕСЬ ЧОБАТ

# З ДЗЁННІКАЎ С. ЯНОВІЧА

**12-11-1988 г.**

Чэрвеньская «Res Publica» /чаму так позна?/: «Z Białorusi: mały i duży». Мой агляд друку, які павінен даць палякам уласцівае ўяўленне пра тое, што адбываецца за Свіслаччу. Здаецца, не падкарацілі ... Ляжыць у іх там - яшчэ адзін.

**15-11-1988 г.**

Генадзь Сагановіч, з Мінска. Увесь дзень з ім. - «Да грамадзян Беларусі. Адозва Арганізацыйнага Камітэту Беларускага Народнага Фронту за перабудову, Адраджэньне», «Прэсгрупа Навіна паведамляе: Голас народнага сумленьня», «Зварот Ініцыятыўнае Групы Канфэдэрацыі Беларускіх Суполак да беларускае моладзі /праект/». - У падзеях 30 кастрычніка ў Мінску арыштавалі 50 чалавек, з якіх 6 аштрафавалі па 200 руб. /заплаціў за іх... Саюз Пісьменнікаў Беларусі/. Пакалечылі пісьменніка Асташонка. Здымкі з разгону - моладзь, Пагоня, бел-чырвонабелыя... Шарэнгі паліцыі. - «ЛіМ» ад 4-га ў прынцыпе дакладна перадае.

Увечары - у Латышонкаў, усе разам з а. У. Чарняўскім. Нешта зрушылася і ў кірунку беларусізацыі касцёла ды царквы. Улады ўжо не перашкаджаюць яму. Нарэшце плённа супрацоўнічае з Надсонам.

**19-11-1988 г.**

«Kurier Podlaski» - здымкі, прывезеныя Сагановічам, і «Zaduszki w Mińsku» /Wandeja «pierestrojki»/". Палякам, пэўна, дзіўна будзе чытаць, што беларусаў б'е савецкая паліцыя... Саветаў - саветы!

«Gazeta Współczesna» змясціла вялізнае інтэрв'ю Лёніка. Зноў тандэм «беларускіх» публікацыяў. Гэта яны, а не «Ніва», пашыраюць абуджэнне беларускага ў душах нашых асімілянтаў.

«Московские новости» ад 6-га: інтэрв'ю Быкава /у БССР «перестройка» ледзь пачынаецца/. Зменіцца кіраўніцтва, Сакалоў і рэшта?

Пасылаю Кіпелю шмат чаго. Ці ёсць сэнс? Толькі такі, што гэта будзе на захаванні ў Публічнай бібліятэцы Нью-Йорка. Самі яны, эмігранты, мала цікавяцца ды разумеюць, - займаюцца сваімі праблемкамі. Некалі думаў я, што такая безуважнасць наглядаецца ў адной Скарынінцы, бо ў ёй няма каму. Не дадумаўся тады, яшчэ не ведаючы Амерыкі, што гэта тыповая рыса ўсяе эміграцыі ды, відаць, і ўсіх эміграцыяў. Перш за ўсё змагаюцца яны за быт, а пачуццё нейкай місіі мусіць быць пасля, калі не цалкам другараднае.

Запусціў я работу над новай кніжкай, так і затрымаўшыся на 29-й старонцы. Дзеячоўская цяганіна таксама не дае сабрацца з духам.

«Літаратура і мастацтва» ад 11-га, змяшчаючы нечакана нарыс «На Зямлі Беластоцкай», пяром Барыса Сачанкі ўпісала нас адсюль у панараму ўсебеларускай культурнай свядомасці, далучыла да яе, уз'яднала. Нічога, што неахайна, з мерытарычнымі ды шматлікімі карэктарскімі памылкамі. І з небяспечнымі для нас ноткамі анексіянізму.

Пад уражаннем публікацыі І. Ласкова «Як яна пачыналася?» Дыяметральны погляд на апошнюю вайну, цынічную ролю ў ёй Сталіна-тырана. Ад Роя Мядзведзева ўзяў?

І пад не меншым - адважная абарона ў друку... Пагоні і бела-чырвона-белага сцяга /яны ўжо былі на дэманстрацыі 30.X./. Гэта псіхалагічная легалізацыя!

- Хутка выйдзе першы нумар «Кантакта»!

**23-11-1988 г.**

У ГП БГКТ - з дацэнтамі Бадзюковай і Дзешкам, гарадзенскімі ўдзельнікамі сесіі 65 rocznicy powstania KPZB /21-га/. - Без беларускай улады не будзе беларусізацыі! - Без помачы БССР беларуская меншасць у ПНР не вырашыць праблемаў свайго развіцця!

Былі яшчэ: Луба, Максімюк, Чыквін і двое з ГК ПАРП.

Што ні дзень, дык усё некуды запрашаюць /учора - на выстаўцы выд. «Czytelnik»+ «Wydawnictwo Literackie»/.

Закончыў «Выезд са Славеніі».

*/Працяг будзе/*

**Тлумачэнні:**

*- Генадзь Сагановіч - гісторык з Мінска, дзеяч адраджэнскага руху з кагорты маладых патрыётаў;*

*- Wandeja «pierestrojki» - аўтар гэтага папулярнага параўнання, выдатны беларускі пісьменнік Алесь Адамовіч, аналізуючы сітуацыю ў Беларускай ССР, пакарыстаўся гістарычнай аналогіяй часоў Вялікай Французскай Рэвалюцыі, калі правіцыя Вандэя супрацівілася пераменам і дайшло ў ёй нават да ўзброенай інтэрвенцыі якабінскай арміі;*

*- Сакалоў - Яфрэм Сакалоў, Першы сакратар Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Беларусі;*

*- Барыс Сачанка - пісьменнік, публіцыст і гісторык беларускай літаратуры; важная тады постаць у менскім палітычным істэблішмэнце;*

*- Латышонкі - вядомы беларускі род у Беластоку, з дома якога паходзіць цяперашні лідэр Беларускага дэмакратычнага аб'яднання Алег Латышонак;*

*- ГК ПАРП - Гарадскі Камітэт былое партыі;*

*P.S. - Чытачам, якія часам папракаюць мяне ў тэлеграфным стылі некаторых запісаў, нагадваю, што было гэта выклікана тадышнімі палітычнымі ўмовамі. Не давяраючы памяці, занатоўваў я істотнейшыя факты, але так, каб у выпадку арышту мець магчымасць абарончай інтэрпрэтацыі іх.*

# ПАКАЗВАЦЬ НЕ ТОЛЬКІ ПРЫРОДУ АЛЕ І ЛЮДЗЕЙ

Я па нацыянальнасці палячка, хаця з боку маці плывуць у маіх жылах і нейкія кроплі беларускай крыві. Але гэта якраз тут не мае ніякага значэння. Выйшла я замуж за беларуса і ад нейкага часу жыву ў Белавежы.

Першы раз у Белавежу трапіла я звыш 20-ці гадоў таму назад, са школьнай экскурсіяй. Што мяне тады ўразіла? Хіба як і ўсіх - мора ўквечанай зеляніны. Запамяталіся мне сосны завоблачнай вышыні, магутныя дубы, зразумела, зубры, тарпанападобныя конікі, ну, і гэтыя «плюшавыя» закансерваваныя экспанаты ў прыродазнаўчым музеі. Пачула я яшчэ некалькі цікавінак з жыцця тутэйшай флоры і фаўны, пару вестак аб манархах, якія тут палявалі ці прабывалі - і ўсё!

Ці штосьці ў Белавежы з тае пары змянілася? Трэба прызнаць, што шмат. Само мястэчка папрыгажэла. Дайшла новая, па сваёй архітэктуры сыграная з апошняй будоўляй, будыніна Гміннага асяродка культуры /у ім кіно, клуб і бібліятэка/, таксама вялікая і ў тым жа самым стылі школа, прасторная стаянка аўтамабіляў... Тое, што прапануецца прыезджым, зараз лепш падрыхтавана і арганізавана.

Да даўніх, традыцыйных аб'ектаў, якімі з'яўляюцца запаведнік прыроды, паказны запаведнік зуброў /пашыраны зараз на іншыя віды большых пушчанскіх млекакормячых/ і прыродазнаўчы музей, прыбыло з пачаткам васьмідзесятых гадоў шмат новага. Па ініцыятыве памёршага ўжо ляснічага Яцка Высмулка былі выкананы дзве дыдактычныя сцежкі. Першая гэта «Шлях каралеўскіх дубоў», даўжынёю 450 м, праведзены на Старой Белавежы, пасярод 24 магутных дубоў, з якіх кожны названы імем аднаго з манархаў, нейкім чынам звязаных з гісторыяй Белавежскай пушчы. І другая сцежка, якая ўжо не на гісторыі, а на самой прыродзе засяроджвае ўвагу, гэта шлях «Рэбры зубра», даўжынёю каля 3 км, вядучы гаццю і кладкамі праз падмоклыя альховыя лясы. Больш стойкім можна прапанаваць, апрача ўспомненых сцежак, яшчэ чатыры пешыя шляхі ў пушчы.

З канцом сямідзесятых гадоў пачаў ствараццa скансэн. Пачаткова па ініцыятыве аднаго тутэйшага жыхара, потым пры шырокім заангажаванні і помачы моладзі з паўднёвай Беласточчыны. Сёння ўжо можна заглянуць у старую, драўляную хату, тыповым вясковым абсталяваннем, паглядзец старыя, выкананыя з калодаў дрэў вуллі, майстэню, два ветракі.

Улетку, ужо ад пару добрых гадоў, па ініцыятыве гайнаўскіх дзеячоў БГКТ, адбываецца на Івана «Ноч Купалы» - мерапрыемства, дзе апрача шматлікіх забаў, пускання вянкоў па рацэ, перш за ўсё можна паслухаць выступленні беларускіх фальклорных калектываў.

Калі б хтосьці прыехаў у Белавежу ў верасні, меў бы, праўдападобна, аказію сустрэць вядомага мастака. А хто прыехаў бы ў кастрычніку, той мог бы паглядзець ужо і выстаўку намаляваных прац, падрыхтаваную ў тутэйшым музеі, таму што ўжо з 1965 г. кожную восень адбываюцца тут міжнародныя мастацкія пленэры, якія арганізуе Саюз польскіх мастакоў. Варта ўспомніць, што амаль паралельна арганізоўваюць мастацкія «Сустрэчы ў Белавежы» беластоцкія творцы палітры, значыць людзі, якія адчуваюць гэтую зямлю і прыроду найлепш.



Спадар Рыгор таксама ў разладзе з самім сабой–амерыканізавацца яму /глядзі – пінжак/, ці аставацца пры родным, свойскім /глядзі – лапці!/?
*Фота з калекцыі сп. Р. Байко*

Дык ёсць у Белавежы што паглядзець і перажыць. Але... але магло б быць яшчэ больш. Не хапае ў гэтай турысцкай мясцовасці падкрэслення нечага спецыфічнага для гэтага абшару ў галіне культуры. Жывуць жа тут цікавыя творцы. Спадар Станіслаў Банах, які з карэнняў ці галінаў дрэў вычароўвае цуды, спадарыні: Мар'я Смактуновіч - скульптарка, Тамара Тарасевіч - мастачка, новая ясная зорка Белавежы, якая на працягу двух апошніх гадоў мела каля 15 персанальных выставак і яе прозвішча ведаюць па-за межамі Польшчы, Мар'я Навацкая - гафтавальшчыца, таксама сп. Рыгор Байко - карпатлівы даследчык і збіральнік тутэйшых арыгінальных, яшчэ з царскага перыяду, староццяў. Усе яны маглі б паказваць свае творчыя дасягненні ці экспанаты прыязджаючым сюды турыстам. Было б шмат дзеля захаплення вачэй і душы і паглыбляла б гэта спецыфічны мясцовы клімат. Варта, каб гаспадары мястэчка і Таварыства прыяцеляў Белавежы памаглі гэтым людзям арганізаваць, напрыклад, памяшканне /можа, купіць стары, драўляны домік?/, дзе увесь час паказваліся б іх працы. Тады ўдалося б, мусіць, накопліваць прынамсі паасобныя палотны з пленэраў, што дало б цікавую галерэю, прыцягвала б гасцей, ды і магло б даваць даход. А мо знойдуцца шчодрыя спонсары, якім у сэрца запала Белавежа, і памогуць здзейсніць гэтую ідэю?

І яшчэ адно. У Белавежы жывуць у большасці беларусы. А няма ў ёй хаця б аднаго рэстарана, бару ці кафейнай з беларускай назвай, прыбраннем ці меню. Затое, як усюды ў дзяржаве, штораз больш ангельшчыны, коштам роднай цікавай арыгінальнасці. Толькі ці замест станавіцца банальным, не лепш экспанаваць сваю іншасць?

**БАРБАРА КВАПІШ-БАЙКО**

МІРА ЛУКША

# СЛАНЕЧНІК

*АПАВЯДАННЕ*

- Якая ж я рада, што буслы аблюбавалі нашу клуню! Глянь, Лілечка, якое кастрабатае гняздо. Калі б ведала, што паселяцца, сказала б Васькавым хлопцам, каб зацягнулі кола ад ровара на шчыт, - паказала пальцам на старую клуню баба Фруза.

Баба Фруза не была роднай Лільчынай бабай, а нават не сястрой бабы ці дзеда. Баба Фруза нарадзіла цёцю Марысю, найлепшую сяброўку Лільчынай маці. Родных дзядоў у дзяўчыны не было ўжо ў жывых, маці з'ехала ў Амерыку, бацькі Лілька і не ведала - кінуў яе маці цяжарнай паненкай, хоць, кажуць, вялікае каханне ў іх было, на цэлую ваколіцу. Цёця Марыся, як ніхто ў Малашках, дапамагала сяброўцы сярдэчнай падтрымкай. Не толькі добрым словам. З першай выплаты (працавала ў вясковай краме) накупіла маленькай Лільцы столькі каптанчыкаў і паўзункоў, што хапіла б на тузін такіх безабаронных крышынак. І потым спагадлівая цёця не шкадавала ні часу, ні грошай, хаця на вёсцы з грашом не было найлягчэй. Маці з Лількай выехала тады ў Беласток, працавала ў дзіцячым садзіку, гадавала малую. Каханы Тадзік не паказаўся ніколі.

Лілька ўсе вакацыі, хоць па пару тыдняў, праводзіла ў цёці Марысі ды бабы Фрузы. Нават калі стала студэнткай, заўсёды знайшла хвіліну хоць заглянуць на падворак, зацененены старымі сакорамі, ліпамі і клёнамі. Цёця Марыся часта хварэла і, бывала, якраз у летні час трэба было даглядзець бабу Фрузу. Бабу ўсе любілі і паважалі, і дапамагчы ніколі не былі супраць, але ў Малашках пазаставаліся амаль ўсе такія ж нядужыя старэчы, як і баба Фруза. Пані Крыся, сястра ПЦК, шмат мела з імі працы. Калі паяўлялася Лілька, пані Крыся, папіўшы гарбаты з мілай дзяўчынай, з чыстым сумленнем бегла да іншых сваіх падапечных. Лілька ў парватых джынсавых портачках і выгарэўшай маечцы, у хустачцы над узмакрэлым ілбом, бралася за падлогі, вокны, бялізну. Салёная раса сыпалася на вочы, а дзяўчына, напяваючы «Харашуху», улюбёную песню бабы Фрузы, увіхалася па хаце.

Зямлі ў бабы Фрузы не было шмат - ужо даўно аддала свой кавалак дзяржаве за пенсію ; мела толькі дагледжаны агарод, разбіты на тлустай ураджайнай зямлі за хатаю, з вялізнымі гарбузамі, рослымі сланечнікамі, цёмназялёным кропам вышэй чалавека, шурпатымі доўгімі гуркамі, надзіва павыкручванымі ў карэнні, як які жэнь-шэнь, морквамі... Толькі памідоры тут не надта ўдаваліся - амаль увесь сок ішоў у моцнае голле і буйны лісток, а плады, маленькія і паморшчаныя, ледзь выспявалі, і трэба было іх збіраць з карча ў хвартух і раскладаць на падваконніках, каб на сонцы набралі колеру ды смаку.

Лілька ўваходзіла ў гэты летні цень і бляск, запах і цішыню, убірала ў сябе пах кропу, ліпаў, васількоў, жыта - у валасы, у далоні, у лёгкія, і адчувала сябе ў гэтыя спакойныя летнія дні як стройны сланечнік, што паварочвае сваю светлую галаву за сонцам, грэецца і пільна спее, чакаючы - можа птушыных дзюбак, можа вуснаў чалавека, а найхутчэй - чорнай раллі і новага жыцця ўглыб і ўвысь. Лілька завязвала гэтыя падспелыя вялікія галовы клетчатымі старымі хусцінамі бабы Фрузы, каб не лакоміліся вераб'і і шпакі, і такую ж хусцінку-касынку накідала на сваю светлую галоўку.

- Як жа я рада буслам! - пляснула ў далоні баба Фруза. - Але, каб ты ведала, што тут было ўвесну! Прыляцела адна пара, пачалі класці гняздо. Яна села на яйкі. І тут прыляцела яшчэ двое. Давай іх тыя зганяць з гнязда. Яечкі скаціліся, пабіліся. Старыя буслы, о, як ваявалі, пер'ем падушку можна было набіць, толькі што моцна крывавае было. Зноў бусліха знесла яечка, выгрэлі малога. Пачалі яго бацькі карміць-гадаваць. І зноў наляцелі тыя. І, бачыш, цяпер на нашым гняздзе адна сядзіць, здаецца, бусліха. Без мужа, без дзетак жыве. А, можа, гэта муж? Пасядзіць, паклякоча, пабядуе, палётае крыху, паходзіць, паесць, пап'е, і зноў на гняздо. Чаго ж тут пільнаваць! Гавораць, што верныя яны, буслы, і потым ўжо пары не шукаюць, калі каторае памрэ. І да смерці так яму жыць адзінока? Цікава, ці ён зноў да мяне на клуню прыляціць...

- Бабця, з людзьмі так не бывае.

- А як жа ж? То ж чалавек з сабою ўсё раўняе. Звер не скажа ж, што любіць, а бачыш, як жывёлкі сваіх гадуюць, з дзюбкі кормяць, песцяць, хіба што зязюля...

- Бабця, гэта толькі ў казках ды кніжках пра каханне пішуць. А як было з маёй мамай? Я ніколі кахаць не буду. Толькі вы ў мяне, бабця, такія добрыя, каханыя... А я, вось, ніколі не закахаюся. А, можа, я і не вартая? Як жа мне можа трапіцца такое шчасце, што - іншыя нявартыя? Пакахаеш, не ўшануюць, патопчуць, апаганяць...

- А Янак? Хлопец добры, працавіты, вучоны... Наш хлопец, хоць гадаваны далёка. Усе бачаць, - вачэй з цябе не зводзіць. Даў вам Бог сустрэцца, дзеткі, то і не змарнуйце шчасця.

- Не!.. Нічога між намі няма, і не будзе! Баб, мне заўтра ў Варшаву трэба, справы там маю. Не пагневаецеся, што пакіну вас, на крышку толькі, бабця? Я патэлефаную пані Крысі, загляне...

Янак... Бабці ж і не ведаць, які ён цудоўны, які каханы... Ну і што, што так яно і ёсць? Ён паедзе ў свой Уроцлаў, а яна - да сябе дадому. Праўда, не на канец жа свету... Гэтая слодыч, якая так ахапляе Лільку, гэта толькі мана. Нельга ж кахаць так моцна, аж да болю!..

Янак Лільку на другі дзень убачыў на прыпынку - чакала паўднёвага аўтобуса. А былі ж дамовіліся сустрэцца ўвечары?.. Ля парэпанае лаўкі стаяў яе высокі малінавы наплечнік з металёвымі трубкамі. Лілька неспакойна адкінула валасы на спіну, страсянула нябачны пыл з джынсаў. Усім целам павярнулася ў бок, адкуль меў паявіцца аўтобус. Быццам Янка і не было, а стаяў жа побач, з яе нецярплівай і спалоханай далонню ў сваёй, узмакрэлай і беднай.

- Лілька, ці я цябе знайду?

- Знайшоў цяпер, знойдзеш і там. А, можа, лепш і не шукай.

- Дай, калі ласка, твой тэлефон, адрас... Я цябе прашу... Не можам жа так! Я... Я мушу табе...

- Вось бачыш - ці сустрэнемся мы яшчэ, ці не - усё залежыць ад лёсу. Да пабачэння, мне пара.

За Лількай шафёр зачыніў з ціхім сыкам аўтаматычныя дзверы аўтобуса. Лілька, не азіраючыся, пачала праціскацца ў тыл машыны паміж соннымі пасажырамі і іх набітымі торбамі.

Янак чакаў, калі дзяўчына адвернецца, хоць разок гляне на яго. Не мог стаяць - дрыжалі ногі. Божа, каб дзе які слуп ці дрэва... У роце адчуваў млявасць, як перад двойкай на экзамене, якая вось-вось спаўзе з-пад самапіскі прафесара, і нічога ўжо не зменіш. Нічога ўжо не зменіш?! Што ж здарылася? Чаму ж не паспеў сказаць Лільцы пра ўсё? Не можа быць, каб яны так разышліся!

Лілька за шыбай аўтобуса заглыбілася ў кніжку. Гэта былі вершы, але яна не разумела слоў. Радкі былі напісаны складна і гладка, у галаве ў іх рытме білася, тахкала жылка. Але потым дзяўчына супакоілася, закалыхалася разам з незваротлівым старым аўтобусам, які крута закідаў задам на рэзкіх паваротах.

Бзыкалі з-пад колаў каменьчыкі жвіру, пахла пераспелым сухім жытам, васількамі і пылам. Цераз адкрыты люк у даху машыны ўрывалася паветра, прапахлае бензінам.

Потым пайшоў рэдкі цёплы дождж. Лілька вачыма шукала на небе вясёлку, круцячы галавой то ў той, то ў гэты бок, а тая ўзнікла на міг на гарызонце спераду аўтобуса. Мала і бачыла яе за спінамі спадарожнікаў.

- О, ёсць вясёлка, - падумала Лілька і зачыніла кніжку.

Толькі цяпер павярнула сваю светлую галаву ў той бок, адкуль ехала дадому.

# БЕЛАСТОЧЧЫНА Ў ЧАС НЯМЕЦКАЙ АКУПАЦЫІ

— II —

Немцы, якія на пачатку акупацыі Беласточчыны карысталіся выключна дапамогай палякаў, у канцы 1942 года пачалі мяняць сваю палітыку. Падтрымалі яны ўсе намаганні Беларускага нацыянальнага камітэта, якія вялі да пашырэння ўдзелу беларусаў у працы адміністрацыі і паліцыі. Два народы, якія спаборнічалі б у галіне службы акупацыйным уладам, стваралі б найлепшыя ўмовы дзеля рэалізацыі прынцыпу „дзялі і пануй".

Летам 1943 г. на грамадскай аснове камітэтаў была створана палітычная арганізацыя — Беларускае нацыянал-дэмакратычнае аб'яднанне. У адрозненне ад камітэтаў, якія вялі дзейнасць як легальныя арганізацыі і займаліся галоўным чынам справамі сацыяльнымі, асветнымі і культурнымі, Аб'яднанне імкнулася перад усім ажыццявіць і пашырыць беларускую прысутнасць у палітычным жыцці беластоцкай акругі. У гэтым самым часе немцы, там дзе гэта было магчыма, мянялі ўраднікаў-палякаў на беларусаў, абмежавалі польскае школьніцтва і стваралі ўмовы для развіцця беларускага. Шмат беларусаў, якія ўключаліся ў дзейнасць Аб'яднання, імкнулася адплаціць палякам за 1941 г. У 1943 г. структуры Аб'яднання ўзніклі ў Беластоку,

Міхалове, Ялоўцы, Белавежы, Гайнаўцы, Гарадку, Нараўцы. У красавіку гэтага года была створана першая група Беларускай самаахoвы ў Белавежы, а пасля ў іншых мястэчках, дзе дзейнічалі беларускія арганізацыі. Галоўнай мэтай Самаахoвы мела быць барацьба з савецкімі партызанамі, дзейнасць якіх выклікала страшлівую помсту немцаў на нявінных жыхарах навакольных вёсак. З увагі на тое, што сярод савецкіх партызанаў амаль палова жаўнераў гэта былі мясцовыя беларусы, бралі яны пад увагу і бяспеку насельніцтва, часта сваіх блізкіх, знаёмых, суседзяў. Здаралася і так, што п'янага немца партызаны везлі на пост, каб не замерз на снезе каля вёскі, у якой напіўся. Яны ведалі, што ніякі эсэсавец не будзе весці доследаў, ці яго калега замерз, ці яго задушылі. Савецкае падполле на Беласточчыне паводзіла сябе даволі памяркоўна, таму сярод насельніцтва не адчувалася патрэбы стварэння структураў Самаахoвы, а гэтага ад беларускіх дзеячоў дамагаліся немцы. Не было ахвотных змагацца з савецкім падполлем і таму, што для большасці беларусаў нямецкая акупацыя сталася кашмарам, канца якога яны з нецярплівасцю чакалі. Ніхто не быў упэўнены, ці перажыве наступны дзень, таму і ніякія нацыянальныя справы людзей не цікавілі. Арганізацыйная дзейнасць, якая вялася ў той час, гэта перад усім актыўнасць інтэлігенцыі, якая ўпершыню атрымала магчымасці (праўда, абмежаваныя) прапагандаваць беларускую нацыянальную ідэалогію.

На тэрыторыі Беларусі, якая перад 1939 г. была пад савецкай акупацыяй, дзе жыхары перажылі „дэнацыяналізацыю", „калектывізацыю" і ў канцы сталінскі генацыд, вялася амаль унутрыбеларуская вайна, бо ахвотных змагацца з камунізмам там было амаль столькі, што ахвотных змагацца за камунізм.

Беласточчына ў адрозненне ад цэнтральных абшараў Беларусі не сталася зямлёй, на якой змагаліся, між сабой розныя плыні беларускай палітыкі. Беларускі нацыянальны рух амаль не кранаў сялянскага асяроддзя, а пасля Сталінграда штораз больш было ахвотных супрацоўнічаць з савецкім падполлем і вочы насельніцтва звярталіся на ўсход, шукаючы паратунку ад зверстваў акупанта.

На Беласточчыне не было таксама нацыянальнага канфлікту паміж палякамі і беларусамі, кранаючага ўсё насельніцтва. У адрозненні ад Віленшчыны ці Наваградчыны, беларусы не ўдзельнічалі ў акоўскім падполлі. Большасць беларусаў Беласточчыны палітыка зусім не цікавіла, жылі яны бояззю, каб у іх дом не прыйшлі ніякія партызаны, а тым болей немцы. Большасць з іх марыла, так як і раней, каб перажыць гэтую чарговую акупацыю, якая з часам станавілася штораз больш невыноснай.

Узрастаючыя ўплывы савецкага падполля ў канцы 1943 г. і штораз большая падтрымка для яго з боку беларускага грамадства Беласточчыны, выклікалі адмоўныя рэакцыі сярод польскіх палітыкаў. Баяліся яны, што яшчэ ў час вайны

кантроль над гэтай зямлёю возьме ўрад Сталіна. Таму, каб прыпомніць насельніцтву, хто з'яўляецца тут гаспадаром, і вымусіць пашану для поль-

# У ЯБЛОЧЫНЕ

У 1998 годзе праваслаўны манастыр святога прападобнага Ануфрыя Вялікага ў Яблочыне над Бугам /Бела-Падляшскае ваяводства/ будзе адзначаць 500-годдзе свайго існавання. Гісторыя гэтага манашаскага асяродка, што знаходзіцца на надбужанскіх лугах у недаступных даўней мясцінах, перапоўнена святымі прыкладамі аскетычных подзвігаў манахаў, іх службы Царкве - Госпаду Богу і вернікам. Манастыр нават у найцяжэйшыя для Праваслаўя часы /перыяд уніі, палітыка ўлад II Рэчыпаспалітай/ адстаяў сваю веру. І хаця былі моманты слабасці, выкліканыя знешнімі і ўнутранымі прычынамі, манастыр усё падымаўся на новыя ступені дасканаласці.

Размяшчэнне манастыра, яго традыцыя і сёння прыцягваюць сюды манахаў і кандыдатаў на іх не толькі з Польшчы, але нават з Галандыі і Малдовы. Прыезд у Яблочына новых манахаў і перанясенне ў 1992 годзе Вышэйшай духоўнай семінарыі ў Варшаву выдатна паспрыялі адраджэнню аскетычнага жыцця ў Ануфрыеўскім манастыры.

Памяць святога Ануфрыя ўрачыста ўспамінаецца ў Яблочыне 25 чэрвеня. У той дзень сотні паломнікаў з бліжэйшага і далейшага наваколля - у асноўным беларусаў з Беласточчыны, прыбываюць сюды, каб пакланіцца прападобнаму. На жаль, ягоная старажытная ікона, якая дала пачатак манастыру, а таксама ікона Яблочынскай Божай Маці да сёння не знойдзены... І наўрад ці знойдуцца. Уладыка Ерэмія яшчэ ў маі гэтага года на Святой Гары Грабарцы ў трывожных словах сказаў, што іконы загінулі невыпадкова, што ўсё паказвае нам і перасцерагае нас перад тым, што ў нашай Царкве, унутры, творыцца нешта не так...

Але вернемся яшчэ раз у Яблочына. На здымках, прыложаных да тэксту, вы бачыце эпізоды з гэтага вялікага дня. Вядома, яны толькі ў нейкай ступені адлюстроўваюць атмасферу святкавання.



*Прычашчэнне ў час Літургіі ва Успенскай часоўні.*

**МІКОЛА САХАРЭВІЧ**
Фота аўтара



*Вяртанне з Літургіі ў промнях узыходзячага сонца.*



*Раніцою ў часоўні Святога Духа.*

## ЛІВЕНЬ СПЫНІЎ КАНЦЭРТ

Надвор'е, здаецца, сёлета не надта спрыае беларускім імпрэзам. Або неміласэрная спякота /як у Свята беларускай культуры 21 чэрвеня/, або неўтаймаваны дождж знеахвочваюць людзей да ўдзелу ў іх.

У Бельску, пасля таго, як дождж прымусіў арганізатараў правесці беларускі фэст у будынку Дома культуры, вырашылі спрабаваць яшчэ раз. На нядзелю 2 жніўня запрасілі віцебскую «Грамаду», папулярнасцю з якой наўрад ці зможа на Беласточчыне зраўняцца які-небудзь іншы калектыў. Канцэрт «Грамады» ў гарадскім парку меўся пачацца а 18 гадзіне, каб потым пераўтварыцца ў агульную забаву, з танцамі. Задума была добрая.

Заўсёды ахвотныя іграць для людзей хлопцы з Віцебска апаратуру пачалі расстаўляць ужо да гадзіны чацвёртай. І канцэрт пачаўся раней, ужо перад шостай. Аднак разам з гэтым неба пачало зацягвацца чорнымі хмарамі. Сабраны вялікім натоўпам народ пачаў палахліва раз-пораз углядацца ўгару. Дарма вядучы канцэрт Багдан Шульц гарантаваў, што хмары разыдуцца. Людзі змагаліся з сабою - паслухаць яшчэ адну песню ці даць драла балазе неба чарнела з мінуты ў мінуту. Шчаслівым аказаўся той, хто паспеў купіць касету «Грамады», дык хаця потым дома мог паслухаць улюбёную музыку пад барабанны стук дажджу аб шыбы. Бо дождж, нягледзячы на гарантыі спадара Шульца, пайшоў ужо а палове сёмай. Не дождж, а навальніца! З маланкамі, з громам.

Ну што ж, было гэта на Ілью, а старэйшыя людзі кажуць, што шчэ такога не было, каб у гэты дзень прарок не праехаўся па небе ў сваёй калясніцы, запрэжанай сівымі коньмі. Шкада толькі, што якраз у такі момант, бо ўжо а восьмай ад дажджу засталіся толькі лужыны на асфальце, а светлы захад сонца прадвяшчаў пагодную зорную ноч.

Шкада музыкаў з «Грамады», шкада арганізатараў з Бельскага дома культуры. І перш-наперш шкада публікі, якая не магла як след наслухацца меладычных песняў, нацешыцца творамі, якія лёгка трапляюць у вуха і да сэрца.

**ак**

скай дзяржавы, на тэрыторыю ўсходняй Беласточчыны было паслана некалькі батальёнаў Арміі краёвай, якія пачалі барацьбу з савецкім падполлем. Таксама ў канцы 1943 года паявіліся на гэтай тэрыторыі аддзелы т.зв. Нарадовых сіл збройных (нацыяналістычная плынь у польскім падполлі, больш вядомая беларускаму насельніцтву з пасляваеннай дзейнасці). У адным і другім выпадку гэтыя войскі змагаліся з савецкімі партызанамі, а беларусы іх трактавалі як нямецкіх паслужнікаў.

Нямецкая палітыка ў цэлай усходняй Еўропе была падобная — тэрор, страх і самагонка гэта фактары, якія дэмаралізавалі грамадства. Данос стаўся метадам, пры дапамозе якога рашаліся шматлікія прыватныя канфлікты. Перапалоханыя людзі, дэгенераты, кар'ерысты і крыміналісты, нягледзячы на нацыянальнасць, заўжды былі гатовыя служыць кожнаму рэжыму. На Беласточчыне, дзе жылі дзве вялікія этнічныя групы, немцам не было цяжка знайсці супрацоўнікаў.

Найчасцей паліцыянтаў гэтых двух нацыянальнасцяў пасылалі пільнаваць зняволеных у тых самых турмах, што выклікала спаборніцтваў рабалепстве і ўзаемны кантроль.

На пачатку 1944 г. немцы вырашылі сабраць паліцыянтаў - палякаў і беларусаў у адной казарме ў Беластоку, але з увагі на неканчаючыеся бойкі паміж імі паслалі палякаў у Прусію.

Прынцыпам акупацыйнай палітыкі было пасылаць паліцыянтаў- беларусаў у польскія вёскі, а палякаў — у беларускія. У такой сітуацыі жыхарам амаль немагчыма было дагаварыцца з паліцыянтамі. У беларусаў стварылася ўражанне, што толькі палякі служаць акупантам, а ў палякаў — што толькі беларусы. Падобнымі метадамі карысталіся пры выбарах солтыса. Там, дзе большасць жыхароў былі беларусамі, солтысам назначалі паляка і наадварот, дзе большасць палякаў — беларуса. Было гэта даволі істотнае — солтыс назначаў людзей на работу ў Рэйх, раздзяляў кантынгент, наложаны на цэлую вёску. Кожнае яго рашэнне магло быць успрынята жыхарамі як дыскрымінацыя аднаго або другога боку.

Час акупацыі гэта распаўсюджанне зладзейства і бандытызму. Некалькіасабовыя групы бандытаў ствараліся найчасцей з людзей гэтага самага веравызнання і, зразумела, рабавалі не „сваіх". Для большасці беларусаў з гміны Міхалова, Заблудаў, Гарадок ці Нарва польскі партызан у свядомасці заставаўся як той, хто з пісталетам уварваўся ў хату і забраў кажух, саланіну, боты, каня. Здаралася, што на рахунак „польскага войска" рабавалі таксама беларусы. Але такую канкурэнцыю нішчылі вельмі рашуча.

Нягледзячы на брутальнасць апошняй нямецкай акупацыі, з пашанай успамінаецца гаспадарчая палітыка тае эпохі. Перад усім дарогі. У некаторых раёнах Беласточчыны збудавалі іх на працягу 3 гадоў больш, чым за цэлы міжваенны перыяд. Большасць вёсак на Беласточчыне ў канцы вайны мела брукаваныя вуліцы і абавязкова панадворак солтыса быў вылажаны каменем. Зразумела, што гэтыя дарогі мелі служыць перад усім самім немцам і што іх будова ішла так паспяхова таму, што да працы былі прымушаныя дзесяткі тысяч людзей, якім амаль нічога не плацілі. Аказалася, што пры адпаведнай арганізацыі можна было зрабіць столькі, што і ніколі не снілася мясцовым жыхарам.

Беластоцкая зямля была ўключана ў межы Нямеччыны і таму яшчэ ў час акупацыі немцы пачалі праводзіць яе інтэграцыю са сваёй краінай. З Заходняй Еўровы прывозілі сюды машыны і абсталяванне, лепшыя гатункі збожжа, распаўсюджвалі ўсё гэта сярод мясцовага насельніцтва. Без цяжкасці можна было купіць цэмент і цэглу. Падаткі, якія назначылі акупанты аддаць жыхарам у грашовай ці таварнай форме, не былі вялікія. Пасля вайны „народная ўлада" дамагалася плаціць у 11 разоў больш. Некаторыя гаспадаркі былі звольнены ад падаткаў. Датычылася гэта перад усім тых, якія будаваліся ці мелі зямлю 5-6 класаў. У рамках абавязковага кантынгенту некалькі гаспадароў аддавала 1 свінню або карову ў год. З другога боку, калі гаспадар без дазволу адміністрацыі забіў сабе свінню і сусед паінфармаваў аб гэтым каго трэба, гаспадар так за замест есці каўбасу мог трапіць у канцлагер. Зразумела, аднак, што хто гадаваў свіней, той не пасціў. Я толькі даведаўся пра пяць спосабаў, як забіць свінню, каб яна не піснула, не квікнула.

*(Працяг будзе)*

**ЯЎГЕН МІРАНОВІЧ**

# ГРЫНЕВІЧЫ ВЯЛІКІЯ

/пачатак у 31 і 32 н-рах/

Паводле «Кліровых Ведамасцяў» прыход у Грыневічах налічваў у 1891 годзе 769 чалавек, пражываючых у 96 дамах у вёсках: Грыневічы - 16 дамоў, Суботка - 5, Катлы - 54, Белая - 5, Арлянка - 4 дамы.

Паміж гэтай апошняй маленькай вёсачкай і Грыневічамі, на балотах была пастаўленая ў 1892 годзе каплічка ў чэсць Пакровы Божай Мацеры і св. Братоў Макавеяў. З яе ўзнікненнем на гэтым жа месцы звязана наступнае паданне:

«Ішлі палямі і ліесом жэншчыны з Орлянкі до цэркві ў Грыневічы на Усеночню. Колі проходілі коло месця дэ тэпэр капліця, зьявілася ім Божая Мацер. Бачылі воны ея, як волосы на голове чэсала. Помоліўшыся тут, пойшлі воны хутко до батюшкі і росказалі, што бачылі». /З расказу Феадосія Кавэрды 1913 года нараджэння в. Катлы/.

Каплічка стаіць і сёння на невысыхаючай крыніцы з цудатворнаю вадою. Яшчэ перад эпохай меліярацыі было тут ледзь праходнае балота, мелі тут прыстанішча вадзяныя птушкі.



*Прыдарожныя крыжы каля Катлоў.*

Балота асушылі; з каплічкі была ўкрадзена ў 1985 годзе Ікона Багародзіцы, пісаная на палатне.

У 1899 годзе ва ўзросце 47 гадоў памірае а. Іаан Пісканоўскі. Яго наступнікамі сталі чаргова: а. Міхал Жукоўскі, а. Мікалай Сасноўскі, а. Павал Страшкевіч, а. Арсеній Шырынскі, а. Зіновій Чаквін. Гэты апошні свяшчэннік, разам са сваімі прыхаджанамі падаецца ў «бежанства» ў 1915 г.

Ужо ў часе непрысутнасці прыхаджан, у час ваенных дзеянняў грыневіцкая царква гарыць разам з унутраным убранствам /знамянальнае, што ацалела толькі Напрастольнае Евангелле ды св. Чаша./

Пасля вяртання людзей з бежанства, у II Рэчыпаспалітай грыневіцкі прыход ужо не адрадзіўся. Чыноўніцкія статыстычныя даныя з пачатку 20-ых гадоў так апісваюць прыход:

«wyznawców 455 meż. i 545 kob., cerkiew spalona, ziemi 37 morgi 200 prętów, łąki 20 morgów 200 prętów i lasu - 11 morgów. Decyzja władz państwowych parafię skasować i przyłączyć do parafii Preczystej w Bielsku Podlaskim».

Доўга не была ясная справа прыналежнасці царкоўнай зямлі /41,95 га/. У II Рэчыпаспалітай перайшла яна ў непасрэднае ўладанне Дырэкцыі дзяржаўных лясоў у Седльцах. Зямлю гэтую далі ў арэнду некальнім гаспадарам з Грыневіч. У гадах 1928-1936, калі ў Грыневічах Вялікіх праводзілася камасацыя земель, узнятая была таксама справа продажу ці перадачы царкоўнай зямлі ва ўласнасць гаспадароў.

Варта адзначыць, што ў 1928 годзе ў Грыневічах Вялікіх было 60 гаспадароў /з гэтага 24/26 праваслаўных сем'яў/. Найбольшымі гаспадарамі былі тады: Афанасій Навіцкі - 41 га; Баляслаў Грыневіцкі - 22 га: Іосіф Садоўскі - 22 га; Грыгор і Кіпрыян Навіцкія па 18 га. Пры нагодзе вернемся яшчэ ў XIX стагоддзе, да справы грыневіцкага маёнтку.

Да 1864 года зямельным канкурэнтам для грыневіцкай шляхты і сялян быў маёнтак Яна Саковіча ў тых жа Грыневічах Вялікіх, двор якога знаходзіўся ў прыгожым месцы, па-над даліною Белай. У 1864 годзе маёнтак Саковічаў быў прададзены 14-ці гаспадарам /113 дзесяцін зямлі/. На Грыневічах купілі землі і пасяліліся тут багатыя мяшчанскія роды з Аўгустова: Навіцкія, Заброцкія, Бусловічы, Ляшэвічы. Адначасова грыневіцкі двор з часткай маёнтку ўвайшоў ва ўладанні княжны Абаленскай, пасля ж перайшоў да роду Смульскіх і Шпіцбартаў.

Пасля верасня 1939 года на Беласточчыне адрадзілася многа праваслаўных прыходаў. Не адрадзіўся, аднак, прыход у Грыневічах, дзе з часу I сусветнай вайны не было ўжо свайго храма.

Мінулі гады другой сусветнай вайны, сярод жыхароў, галоўным чынам вёскі Катлы, узнікла ідэя адбудовы спаленай царквы. Паводле ўспомненага ўжо Феадосія Кавэрды, стараннi па яе адбудове пачаліся адразу пасля вайны, у час перасялення некаторых сем'яў у БССР. Для пабудовы царкоўкі вернікі з Катлоў купілі каля Трасцянкі хату. Прывезлі яе і паставілі на грыневіцкіх могілках. Вядома, пабудова ішла пачаткова без плана. І тут пачалі дзейна ўмешвацца адміністрацыйныя ды партыйныя улады. Аднак, дзякуючы актыўнасці сялян, асабліва тадышняга солтыса Ф. Кавэрды, ўдалося зрабіць план і ў хуткім часе завяршыць пабудову. На працягу пэўнага часу была дабудавана званіца і ў такім выглядзе могільнікавая царкоўка, нашчадак даўняй Ільінскай царквы ў Грыневічах, стаіць да сёння.

Увагу ў ёй могуць звярнуць рэзбленыя царскія вароты. Паводле Ф. Кавэрды, паходзяць яны са старой царквы ў Кленіках /узятыя адсюль пасля рамонту іканастаса ў гэтай царкве ў 50 - 60 гады XX ст./.

Царква св. прарока Ільіі ў Грыневічах з'яўляецца сёння філіяльным храмам царквы Раства Багародзіцы ў Бельску. Богаслужэнні адбываюцца тут у дзень прастольнага свята св. прарока Ільі, у свята Увядзення ў храм Прасвятой Багародзіцы /традыцыя асаблівага ўшанавання ў Грыневічах гэтага свята даволі даўняя; у «Візітацыі» 1727 года чытаем, што ў царкве знаходзіўся малы алтар з Іконай Увядзення /Ахвяравання/ ў храм Прасвятой Багародзіцы/, трэці дзень Нараджэння Хрыстовага і г.д.

***

Вёскі даўняга грыневіцкага прыхода ўсё пусцеюць, шматлікія дамы стаяць пустыя, пляцы зарастаюць крапівою. Асабліва відаць гэта ў Грыневічах-двары ды Катлах... Пусты і



*Каплічка на цудадзейнай крыніцы паміж Катламі, Грыневічамі і Арлянкай.*

дом-дворык багацейшых грыневіцкіх гаспадароў з «Двара» Заброцкіх, адміраюць Навіцкія, Бусловічы... А ў Катлах старэнькія бабулі і дзядулі лічаць рэнту і, седзячы на лавачках, успамінаюць легенду пра царкву, што стаяла на ўзгорку за вёскаю і ўвайшла пад зямлю, ды выглядаюць сваіх дзетак і ўнукаў з блізкага і ... далёкага горада Бельска. Здаецца, што час затрымаўся ў Катлах, што іх час абмінуў.

Жыхары Катлоў і Белай пачуваюцца яшчэ спадкаемцамі шматвяковай багатай традыцыі свайго прыхода і супольна з грыневіцкімі сялянамі праяўляюць актыўнасць. Не зусім даўно была зроблена новая агароджа навакол царквы, паладжана «царкоўная» дарога, а пры скрыжаванні «гостінця» /той самы стары тракт у Нарву/ і «царкоўнай» дарогі жыхары Катлоў на традыцыйным месцы паставілі новы драўляны крыж; пасвячаны быў ён 30 мая г.г. у дзень традыцыйных абходаў катлоўскіх палёў...

Там, дзе ставяць прыдарожныя крыжы, там ёсць вера, там ёсць жыццё. І гэта абнадзейвае.

**М.С і Р.С.**

## МАЛА, АЛЕ ЦІКАВА

Амерыканскія і канадскія археолагі аб'ядналі намаганні, каб устанавіць, калі першы чалавек з'явіўся ў Паўночнай Амерыцы. Асноўным месцам пошукаў стала даліна за 120 кіламетраў на поўдзень ад Фэрбенкса /Аляска/. Раней тут былі знойдзены прылады працы, выробленыя 11 тысяч гадоў назад, г.зн. у каменным веку.

Аднак у вучоных ёсць падставы меркаваць, што чалавек прыйшоў у гэтыя месцы значна раней. Так, у даліне Юкона археолагі знайшлі косці чалавека, якія праляжалі ў зямлі 20 тысяч гадоў.

Група амерыканскіх вучоных выказала гіпотэзу, згодна з якой засяленне Паўночнай Амерыкі пачалося 70 тысяч гадоў назад. Амерыканцы прыйшлі з азіяцкага кантынента. Як мяркуюць, у дагістарычныя часы Азію і Паўночную Амерыку злучаў ледзяны «мост» даўжынёю ў дзве тысячы кіламетраў, які пазней пертвараўся ў Берынгаў праліў.

/а - ця/

# У СУСЕДЗЯЎ

### УКРАІНСКАЕ «КУПАЛЛЕ»

- Яшчэ тры гады таму ніхто і не падумаў бы, што ўкраінцы наладзяць такое сляткаванне, - сказаў charge d affaires Украіны ў Польшчы Тэадозій Старак, звяртаючыся да ўдзельнікаў «Купалля», якое адбылося з суботы на нядзелю - 4/5 ліпеня г.г. - над возерам Галдапіва ў Круклянках каля Гіжыцка. Далей ганаровы госць расказаў аб польска-ўкраінскіх адносінах у мінулым і сёння.

Арганізатарам мерапрыемства быў «Фонд Заграва» з Гурова Ілавецкага, створаны дзеля развіцця ўкраінскай асветы і школьніцтва ў Польшчы. Кіруе ім настаўнік гісторыі ў гуравецкім украінскім ліцэі Уладзіслаў Козубэль.

У Ольштынскім ваяводстве, паміж Браневам і Галдапам, пражывае прыблізна 20 - 30 тысяч украінцаў, перасеYных сюды пасля вайны ў выніку акцыі «Вісла».

### ПОЛЬСКА-ЎКРАІНСКІ ФОРУМ

Ужо чатыры гады дзейнічае Таварыства «Памост», якое імкнецца наблізіць да сябе народы сярэднеўсходняй Еўропы і ліквідаваць ізаляванасць нацыянальных меншасцяў у Польшчы. Яно разам з ольштынскім аддзелам Аб'яднання ўкраінцаў у Польшчы арганізавала 29 чэрвеня г.г. польска-ўкраінскі форум, прысвечаны ўкраінцам і іх інтэграцыі з іншымі жыхарамі Варміі і Мазураў. На спатканне прыйшло каля пяцідзесяці чалавек, у тым ліку дваццаць украінцаў. Дыскусія трывала дзве гадзіны і закраналіся ў ёй шматлікія тэмы. Чарговы форум будзе прысвечаны выключна ўкраінскай асвеце.

### ПОЛЬСКА-НЯМЕЦКІ ФЭСТЫН

У днях 17-19 ліпеня над Дрвенцкім возерам каля Аструды адбываўся фэстын пад назвай «Дні лета». Прымалі ў ім удзел члены дзесяці нямецкіх таварystваў, якія ад году дзейнічаюць у Ольштынскім ваяводстве, і былыя жыхары гэтай зямлі, якія прыехалі на ўрачыстасць з Нямеччыны. Гуляла на фэстыне амаль 500 чалавек. Жыхары Аструды не праявілі цікавасці да гэтага мерапрыемства, а можа і не ведалі, што за ўрачыстасць праводзіцца над возерам.

«Дням лета» спадарожнічалі два даклады Арно Сурмінскага, нямецкага пісьменніка, які нарадзіўся перад вайной каля Кентшына. Фэстын адкрыла Вальтраут Мрачынская, старшыня арганізацыі нямецкай меншасці «Ёдла», якая налічвае 1200 членаў. Сярод гасцей з Нямеччыны былі прадстаўнікі Федэральнага Міністэрства унутраных спраў і кіраўнікі зямляцтваў. Трэба тут адзначыць, што аструдскае зямляцтва ў Нямеччыне налічвае 23 тысячы былых жыхароў Аструды /Osterode/ і наваколля. Польскі бок прадстаўлялі ольштынскі ваявода Раман Пшэдвойскі і бурмістр Аструды Пётр Павел Жміх. Ганаровым госцем была Мар'янэ Ванаў - нямецкі консул з Гданьска.

З нагоды фэстына ў Аструдскім замку былі наладжаны гістарычныя, краязнаўчыя і мастацкія выстаўкі.

На заканчэнне «Дзён лета» выступіў Вальтэр Вестфаль з зямляцтва Усходняй Прусіі, які гаварыў аб значэнні айчыннай зямлі ў жыцці чалавека.

**АНДРЭЙ ГАЎРЫЛЮК**

Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

# ЖНІВЕНЬ

Апошні месяц лета... І хоць стаіць яшчэ гарачыня, грымяць навальніцы, але ўсё больш навокал прыкмет надыходзячай восені. Вечарамі гусцеюць над нізінамі туманы, даўжэйшымі становяцца ночы, а ранкамі амаль што марозам дыхае серабрыстая раса.

Жнівень - месяц паспявання пладоў, ягад, насення, месяц ураджаю. Пусцеюць збожжавыя палі, на скошаных лугах узнімаюцца стагі духмянага сена, рассцілаецца пад жнівеньскія росы лён, а ў садах пад цяжарам яблык і груш гнуцца галіны. Лес поўніцца галасамі грыбнікоў, радуюць вока поўныя збаночкі брусніц. У светлых лясах, уздоўж ручаёў і па ярах можна сустрэць калючы хмызняк з вельмі падобнымі на маліну цёмна-шызымі ягадамі. Гэта ажына, якая не ўступае па каштоўнасці іншым ягадам.

У сасновых барах і пералесках стаіць востры пах квітнеючага верасу, схілы пагоркаў пакрыліся ліловымі плямамі духмянага чабору, нельга адарваць позірк ад ярка-чырвоных гронак каліны. Вялікімі чародамі збіраюцца на рабінах дразды. Яны быццам спрабуюць, ці час ужо есці ягады. А імклівыя стрыжы з пранізлівым крыкам маланкаю праносяцца над зямлёй. Яны аднымі з першых адпраўляюцца ў вырай. У гэты час збіраюцца ў далёкі шлях і кажаны. Іх чароды ляцяць уначы, а днём садзяцца на адпачынак у якім-небудзь зручным месцы. Часам яны займаюць пустыя шпакоўні.

Прыблізна ў дваццатых чыслах злятаюць з бяроз першыя пажухлыя лісточкі, усё больш і больш яркіх жоўта-чырвоных плямаў з'яўляецца на фоне зялёнага лесу. На глухіх сцежках часам можна сустрэць маленькіх нованароджаных гадзюк з прыгожым узорам на спіне. Падрастае маладняк і ў іншых жыхароў нашых лясоў, палёў, балот.

Яркія зорныя жнівеньскія ночы... Густыя ранішнія туманы... Першыя замаразкі на паплавах... Апошнія дні лета...






*У Наваградку.* **Фота Міры Лукшы.**

# СІНЯВОКАЕ МЫШАНЯ

У адной старой школцы пад падлогаю жылі мышы, вялікія і маленькія. Маленькіх - ажно шэсцерка.

Пакуль мышаняты былі ружовенькія, голенькія, ведалі толькі смактаць маміна малачко ды спаць. Але пачалі прарэзвацца іх вочкі, адрастаць шэрстка, і мама сказала, прыглядзеўшыся да аднаго:

- Гляньце... Ды ж у яго сінія вочкі! Ану, хадзем на святло, праверым.

Пад падлогаю ў мяккім гняздзечку ўтульна, цёпла, цёмна. Неахвота вылазіць, але ўсе падаліся ў той бок, дзе свяцілася шчылінка-лаз.

Ух, які прастор убачылі, колькі святла - аслепнуць можна!

- Вікі, хопіць жмурыцца! І ўсе - адніміце ад вачэй лапкі! - сказала мама. - Ну але, ва ўсіх вочкі нармальныя, а ў Вікі - сінія. І ў каго ты такая ўдалася - уздыхнула чамусьці мама. - Але ж і прыгожа!

- Мама, я таксама хачу не чорныя вочкі, а сінія! - запатрабавала Мікі.

- І я! - запішчаў Пікі.
- І я! І я!.. - закрычалі астатнія.

- Ціха! Многа хочаце... - не знайшла што сказаць мама-мышка.

- Мама, а што гэта наўкол? - падняло лапкі сінявокае мышаня, развяло ў бакі. - Гэта ўвесь свет?

- Гэта першы клас. Хутка прыйдуць дзеці вучыцца. Каб не было бяды, удзень не хадзіце сюды. Мышаняты не слухалі яе, гулялі ў кошкі-мышкі, дурэлі.

А сінявокая Вікі ўсё не адыходзіла ад мамы, пытала:

- А што такое вучыцца?

— Каб многа ведаць, - адказала мама.

- А што тут стаіць такое вялізнае?

- Гэта стол, а там - парты. За іх садзяцца і вучацца.

*Працяг на стар. 10*

## ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ

СТАНІСЛАЎ ШУШКЕВІЧ

### СЯДЗІЦЬ ЦВЫРКУН НА ПРЫПЕЧКУ

Прысеў цвыркун на прыпечку,
Узяў смычок і скрыпачку,
Зайграў польку-патрасуху,
Аж падняў на нogi муху.

Каля печы муха тая
Скача, ножкай выбівае.
А камарык невялічкі
Абувае чаравічкі,
Іх шаўцы два тыдні шылі,
Хоць ідзі танцуй кадрылі.

Скрыпка рэжа крыжачка,
Запрашае павучка.
Ён да танцаў не ахвочы,
А на муху лупіць вочы.

Кажа муха: - Дзі-дзі-дзі,
Да мяне ты не хадзі.
Хіба ж муха табе пара?
Ты насупіўся, як хмара.

Патрасуху скача муха,
А камар бубніць на вуха:
- Дзякуй, муха, за тое,
Што мы скачам абое.

- Ах, бадай цябе пярун! -
Кажа муха камару, -
Не танцуеш, а кульгаеш,
Мне на пальцы наступаеш!

Выбівае ножкай муха,
Вось дык полька-патрасуха!



### КАЛЯ ЛЕСУ ЕХАЎ ЗАЙКА

Ляскатала таратайка,
Каля лесу ехаў Зайка.
Таратайка-самакат.
Зайка быў надзвычай рад.
А нягодніца Лісіца
Палку торкнула у спіцы.
Аб таўшчэзнае палена
Добры Зайка збіў калена.

Горка плача, стогне Зайка
Над абломкам-таратайкай.
І расчуліўся Мядзведзь,
Кажа: - Больш туды не едзь!..
Тут жыве Ліса-хітрыца,
Ёй не спіцца, не ляжыцца,
Я ёй гэта не дарую,
Як злаўлю Лісу старую,
Адплаціць за ўсё прымушу,
Накручу яе за вушы!

Усміхнуўся Зайка, рад,
Папраўляе самакат.
Ён, напэўна, да Мядзведзя
На палянку ў лес паедзе.
Як паправіць самакат,
Пакатае медзвядзят.



# СІНЯВОКАЕ МЫШАНЯ

*Працяг са стар. 9*

- І я хачу сесці за парту, няхай яна мяне павучыць.

- Не парта вучыць, а настаўніца, - цярпліва адказала мама.

Сінявокае мышаня таксама было цярплівае,дачакалася першага верасня.

Раніцаю ў класе такое пачалося - нібы канец свету! Крык, віск, грукат, тупат... Падлога прагіналася і трэслася, праз шчыліны між старымі дошкамі церушыўся пыл. «Апчхі! Апчхі! Апчхі!»- дружна чхалі і мышаняты, і мама з татам. Пачалі завязваць галовы чым папала, каб знайсці які ратунак. Толькі Вікі пабегла да выхаду, туды, дзе свяціўся лаз. Вельмі ж хацелася паглядзець, што робіцца ў класе. Высунула вусатую пыску з дзірачкі ў кутку, натапырыла вушы, як мага шырэй расплюшчыла вочы. Усё ёй было цікава, усё ў навіну. Нагледзеўшыся, пабегла назад у гняздзечка.



- Вой, мама! Хі-хі... Адна дзяўчынка з блакітным банцікам... Ты і мне пачапі такі банцік... Дык залезла яна пад парту ад страху, дрыжыць, настаўніцы баіцца. А настаўніца вучыць іх, каб падымалі руку, калі хочуць што спытаць. Дык адзін падняў і пытае: «А ў класе чхаць можна?» Вой, хі-хі...

Вікі зноў вышмыгнула з гняздзечка.

- У іх перапынак якраз! Асцярожна! - крыкнула наўздагон мама.

Увесь перапынак не было Вікі. А як пацішэла ў класе, пачаўся зноў урок, прыбягае ў гняздо. У роце трымае вялікую крошку піражнага.

- Гэта вам, ласуйцеся. Сёння свята - першае верасня, - сказала яна сястрычкам і брацікам. - Вой, мама! Хі-хі!.. На першай парце каля акна дзве дзяўчынкі. Адна, худзенькая, дастала піражнае з ранца, а тоўстая: «Дай укусіць!» Дык першая: «А што ты мне дасі?» - «На веласіпедзе праехаць дам,» - адказвае другая. «На!» - дае худзенькая. Дык тоўстая як куснула - усё піражнае зараз, яшчэ і за пальцы цапнула зубамі. Крошкі пад парту пасыпаліся, дык я падбегла і ўхапіла...

- Авой! - перапужалася мама. - Усюды ты падлезеш! Пазней, калі разыдуцца ўсе, сходзім гуртам, крошак назбіраем.



Але вельмі чаго падабраць і не давялося. Пасля занятказ дзяўчынкі і хлопчыкі ўзялі мётлы, швабры, анучы і ўсё чысценька падмялі, смецце вынеслі.

Кожны дзень бегала сінявокае мышаня «вучыцца». І пра ўсё, што ўбачыць і пачуе, расказвала дома. ,расказвала дома.

- Мама! А яны вясною кончаць вучыцца, пяройдуць у другі клас! - прынесла аднойчы і такую навіну. - А як жа - А як жа мы? Я таксама хачу перайсці ў другі клас.

Не зразумела яе мама.

- Дачушка, нам і тутака добра. Глядзі во, і гняздо гатовае, і ход ёсць. А ў другім класе столькі папацець трэба...

- Хачу ў другі клас! - настойвала на сваім Вікі.

- Дачушка, на наступны год ты ўжо дарослая будзеш. Людзі новую школу пабудуюць - вялікую, цагляную.

- А колькі ў новай школе будзе класаў?

- Кажуць, дзевяць.

- Ух ты! - захоплена выгукнула Вікі.

Заснула сінявокае мышаня са шчаслівай усмешкай.

А раніцаю ні мама, ні тата, ні сястрычкі і брацікі не маглі знайсці Вікі. Мабыць, перабегла ў новую школу.

Дзівачка, ці не думае і яна скончыць школу?

**ПАВЕЛ МІСЬКО**



*У купальскую ноч з татам зусім нястрашна.*

**Фота Міры Лукшы**

# ВУЖ

Гэтай істоты шмат хто брыдзіцца і баіцца, нават з дарослых. А дарма. Хоць і называюць яе - з-пад куста шыпуля, за нагу шчыпуля - ніякай шкоды людзям яна не чыніць. Пэўна, ты ўжо здагадаўся, дружа, пра каго я вяду гаворку. Вядома ж, пра вужа! А калі ты падумаў пра гадзюку - таксма не надта памыліўся. Але яе трэба асцерагацца. Укусіць - будзе бяда. Таму раю зусім не чапаць паўзуноў. Яны цябе, калі на іх не наступіш, заўсёды абмінуць. З часам гадзюку паляўнічыя зловяць. Умелыя і адважныя людзі выціснуць з яе яд, з якога зробяць пасля вельмі каштоўныя лекі. Як бачыш, і гадзюка прыносіць карысць.

Цяпер - толькі пра вужа. Жыве ён скрозь: у лесе, на балоце, у хмызняках, на берагах азёраў, рэк і нават, здараецца, у блізкім суседстве з намі. Напрыклад, каля выкапаных сажалак або ў глухіх кутках старых паркаў і садоў. Корміцца вуж слімакамі, жабамі, жукамі, птушынымі яйкамі. Ён добра поўзае па галінках дрэў, хутка плавае. Нездарма і рыбка трапляе яму на спажыву. Малыя вужаняты з'яўляюцца на свет з дробных, падобных на птушыныя, яек. Іх адкладвае вужыха ў леташнюю лістоту ці мяккі, вільготны мох. Кубло вужыха робіць на сонечным, угрэўным месцы. Прэлае лісце і мох доўга трымаюць цяпло. Вось так, дзякуючы сонечным промням, і вылупліваюцца з яек вужаняты. Яны мігам распаўзаюцца з кубла, бо напачатку ў іх многа ворагаў.

Цікаўны чалавек, калі сустрэне гада, адразу скеміць, хто ў яго на дарозе. На вужовай галоўцы здалёку відаць дзве жоўтыя або аранжавыя плямкі, а ў гадзюкі іх няма.Не крыўдзі, мой дружа, паўзуноў і, магчыма, табе пашанцуе ўбачыць самога вужовага караля. Як гавораць паданні, ён калісьці жыў на нашай зямлі.

Хадзіў вужовы кароль па-чалавечы, падпіраючыся хвастом, нібы кійком. І не было яму роўнага сярод усіх вужоў. На галоўцы ў караля ззяла бліскучая залатая карона, а свістаў ён такім волатавым посвістам, ажно водгулле разлягалася па ўсёй Белай Русі. У сівую даўніну нашы прашчуры сябравалі з вужамі. Давалі ім прытулак, кармілі хлебам і малаком. Нікога не кусаў вуж, поўзаў па хаце, як сапраўдны гаспадар. Прысядуць людзі палуднаваць - і ён тут як тут, цягнецца пыскаю да ежы. Здаралася, хтосьці з дзяцей не вытрымліваў, біў вужаку лыжкаю па галоўцы. Вуж пакрыўджана сыкаў, адпаўзаў на хвілінку і з другога боку сунуўся да міскі. Даўней людзі верылі: калі з імі побач вуж, будзе шчасце і дастатак у хаце. А калі ён паміраў, то вельмі смуткавалі і рабілі з вужовага тлушчу свечку на ліхі дзень. Надыдзе бяда - селянін запальваў свечку. Святло ад яе разлівалася па ўсёй зямлі. Траплядла ў самыя глыбокія і цёмныя норы. Тады ўсе вужы спяшаліся на дапамогу добраму чалавеку. А вёў іх вужовы кароль з залатою каронаю на галоўцы.

І - бяда адступала.

**УЛАДЗІМІР ЯГОЎДЗІК**




**З дакументаў Генеральнага штаба (ІІ Аддзела), Варшава 1928.**

— 68 —

У Цэнтральнай Літве дзейнічалі: Вацлаў Івановскі (былы дырэктар дэп. апрaвізацыі), Тарашкевіч (шэф секцыі беларускай асветы) і атрымалі пэўныя канцэсіі для беларускага руху. Як альтэрнатыву супраць гэтых дзеячоў, Ковенская Літва прадставіла ўрад Ластоўскага, які атрымаў гасціну на літоўскай зямлі. Апрача гэтага ў Літве знаходзілася шэраг дзеячоў, антыпольскія погляды якіх можна было выкарыстаць. Былі гэта Цвікевіч (адвакат і міністр ва ўрадзе Ластоўскага), інжынер Душэўскі, Захарка, Крэчэўскі (старшыня Рады Рэспублікі), Грыб (міністр), Чэрапук, Бадунова (стат. сакратар), Аўсянік.

Дзеячы гэтыя ўтрымлівалі пастаянны кантакт з Менскам, дзе іх мандатарыем быў Мамонька — левы беларускі эсэр, легалізаваны бальшавікамі. Ад гэтага часу Коўна становіцца найбольш шматлікім і найбольш актыўным цэнтрам беларускай палітыкі ўвогуле і антыпольскай асабліва.

З Коўна ўрад Ластоўскага рассылаў шматлікія ноты, пратэсты і мемарыялы, а таксама сваіх прадстаўнікоў да заходніх дзяржаў і дамагаўся сваіх правоў на форуме Лігі Нацый.

Літоўская дапамога абмяжоўвалася ў тым часе фінансаваннем беларускага школьніцтва (здаецца, што галоўным чынам на тэрыторыі Польшчы і Цэнтральнай Літвы), утрымоўваннем Беларускага міністэрства, якое налічвала толькі 12 чыноўнікаў, выдаваннем „Часопіса Міністэрства да беларускіх спраў" і „Выдавецтва імя Францішка Скарыны" (некалькі падручнікаў і 8 рукапісаў). У палітычнай галіне прызнавалі літоўцы беларускія дыпламатычныя пашпарты і абавязаліся, вярнуўшы Віленшчыну, прызнаць аўтаномныя правы Беларусі.

У лістападзе 1920 года была заключана дамоўленасць паміж беларускім і літоўскім урадамі, тэкст якой мы ўжо змясцілі.

У галіне вайсковасці літоўцы дазволілі беларускаму батальёну (каля 500 чалавек) ваяваць у 1920 годзе на фронце з палякамі. Батальён гэты ўзнік пасля раззбраення польскімі ўладамі ў 1919 годзе гродзенскага беларускага палка. Пасля сканчанай кампаніі літоўцы абдзялілі гэты батальён вялікай колькасцю медалёў „За айчыну". Апрача гэтага заявілі, што будуць разбудоўваць беларускую вайсковасць, якую арганізаваў Аўсянік, былы член Вайсковай камісіі ў Менску.

Літоўцы афармілі для беларусаў звальненне з нямецкага арышту каля 16 мільёнаў нямецкіх марак, якія на некалькі гадоў раней былі пазычаны беларусам Пятлюрай. Сума гэта знаходзілася ў нямецкіх банках. Грошы гэтыя былі косцю нязгоды паміж урадам Ластоўскага і Найвышэйшай Радай. Атрыманне гэтых грошай было формай сур'ёзнай заплаты за антыпольскую дзейнасць. За гэтыя грошы ўрад Ластоўскага жыў, з іх чэрпаў сваю ўладу, успамагаў замежныя пляцоўкі, фінансаваў дзейнасць „Вільнацбелкому", часопісы „Наша думка" і „Крыніца".

Як ужо было сказана, добрыя ўзаемаадносіны паміж палякамі і беларусамі пасля таго, як Польшча заняла Беларусь, з часам пастунова псаваліся. Уплывалі на гэта, з аднаго боку, рэпрэсіі польскіх улад (ліквідацыя школ, беларускіх устаноў і г.д.), выклікаючы горыч, а з другога боку, дзейнічала агітацыя. Здаецца нам, што якраз агітацыя была рэчаіснай і самай галоўнай прычынай, якая сталася імпульсам для варожых адносін да ўсяго, што польскае. Агітацыя гэта мела два вытокі: урад Ластоўскага ў Коўне і савецкі ўрад у Менску, аднак іх мэта была аднолькавая.

На гэту супольную мэту антыпольскай прапаганды ўрад Ластоўскага і ўрад у Менску давалі грошы.

*Працяг будзе*



**ЗЯЛЁНЫ ГАРОШАК, ТУШАНЫ З МАЛАДОЙ ЦЫБУЛЯЙ**

Прадукты: паўкілаграма вылушчанага зялёнага гарошку, некалькі маладых цыбулін, 15 дэкаў капчонага бачку, 1 лыжка масла, 1 лыжачка шалфею, соль, цукар, перац.

Бачок палажыць у каструльку з кіпячай вадою і варыць пад пакрыўкай каля 15 мінут. Тады адцадзіць, астудзіць, дробна нарэзаць. Малую цыбульку ачысціць, памыць і пакінуць цэлай. Растапіць масла, палажыць у яго цыбулю і нарэзаны бачок, тушыць на невялікім агні, памешваючы. Мінут праз пятнаццаць дадаць спаласнуты гарошак. Памяшаць, дадаць крыху адвару з бачку, пасыпаць перцам і соллю. Тушыць. Праз 20 мінут страва павінна быць гатова. Пад канец дадаць шалфей, соль і перац. Тушыць яшчэ некалькі мінут.

Падаюць гэту страву гарачай з грэнкамі.

**ЗЯЛЁНЫ ГАРОШАК, ТУШАНЫ З ПЯЧУРЫЦАМІ**

Прадукты: паўкілаграма вылушчанага зялёнага гарошку, 20 дэкаў пячурыц, 10 дэкаў цыбулі, 3 лыжкі пасечанай зялёнай пятрушкі, 2 лыжкі сланечнікавага алею, 1 лыжка масла, соль, перац, паўшклянкі смятанкі.

Гарошак перабраць і спаласнуць. Памыць і нашаткаваць пячурыцы. Цыбулю абабраць, спаласнуць, добра пасячы, крыху пасаліць. Пасоленую цыбулю падсмажыць на алеі, дадаць нарэзаныя пячурыцы, хвіліну тушыць, дадаць гарошак, спырснуць гарачай вадой, пасаліць, стушыць. Пад канец дадаць смятанку, пасыпаць крыху мукой, закіпяціць, зняць з агню. Дадаць масла, соль і перац, пятрушку.

Падаюць гэту страву да яек, страў з птушкі, шынкі ці сасісак.

**ЗЯЛЁНЫ ГАРОШАК, ТУШАНЫ З АРЭХАМІ**

Прадукты: 40 дэкаў зялёнага кансерваванага гарошку /адцэджанага/, 10 дэкаў грэцкіх арэхаў, 4 лыжкі пасечанай зялёнай пятрушкі, 1 лыжка масла, соль. Кансерваваны гарошак можна замяніць свежым ці мароженым, які трэба было б стушыць на алеі ці масле.

Адцэджаны кансерваваны гарошак палажыць у каструльку. Арэхі крыху падсмажыць на сухой патэльні, астудзіць, ачысціць ад лускі, пасячы, дадаць да гарошку, дадаючы адначасова масла і пятрушку. Тушыць некалькі мінут на малым агні, пералажыць у салатніцу, дадаць солі.

Падаюць гэту страву да цяляціны, птушкі ці біфштэксаў.

**ГАСПАДЫНЯ**




Сэрцайка! Што рабіць? Не было яго роўна пяць гадоў. Дзе быў - не ведаю. Як кажуць, выйшаў па папяросы - і не вярнуўся. Людзі часамі яго сустракалі, казалі, што нейкі час жыў у бацькоў, пасля бачылі яго ў Гданьску з нейкай краляй. Але для нас - гэта значыць для мяне і для нашых дачушак - як у ваду кануў.

І вось таксама неспадзявана, як знік, паявіўся ізноў. Муж, бацька, чалавек, які на працягу ўсіх гэтых гадоў не даў нам адчуць, што думае хоць крыху пра нас: ці маем на хлеб, на вопратку, на абутак, ды і наогул ці не сумуем мы па ім. І зноў ён стаў нашым мужам і бацькам, ані разу не выказаўшы нейкага жалю з прычыны таго, што зрабіў. Я яго прыняла з вялікай радасцю. Мушу табе прызнацца, дарагое Сэрцайка, што за гэтыя гады, калі мой муж быў у адлучцы, я ані разу не глянула нават на іншага мужчыну. Усё чакала. І таму агарнула мяне цяпер такая радасць. 32-гадовай кабеце цяжка быць «саламянай» удавой...

Але... інакш аднесліся да бацькі дочкі. Малодшая, ёй восем гадоў, горнецца да бацькі. Палюбіла яна яго. Калі кінуў ён нас, было ёй усяго тры гадкі. Што ж яна можа памятаць?! Ходзіць цяпер з ім на шпацыры, у кіно, на нейкія канцэрты, ездзіць часамі да яго бацькоў. Муж мой часу мае шмат. Працаў пакуль што рук не забрудзіў. Адвык ці што? Ніяк не магу намовіць яго, каб нешта пашукаў. Кажа, пройдзе лета, дык навосень падшукае. Ну, але пакуль што жыве госцем.

Дык вось, найбольш біды маю цяпер са старэйшай 13-гадовай дачкой. Яна бацьку запамятала добра. І таго яго адыходу не можа дараваць да сёння. Усе слёзы мае яна ўжо перажывала разам са мной. Цяпер на бацьку нават не глядзіць. Не гаворыць з ім, не сядзе побач за стол. Злуецца на мяне, калі чуе, як я ласкава гавару з мужам ці тулюся да яго. Божа, а я ж такая шчаслівая, што нарэшце мы ўсе разам. Злосць мяне бярэ, што гэта дурніца не цешыцца разам са мною, а толькі вытварае неспакойную атмасферу ў хаце. Мне гэта вельмі псуе нервы. Скажы, Сэрцайка, як на тваю думку, ці такое дзіця мае права на так далёка ідучую інгерэнцыю ў справы бацькоў?

**Ліля**

Ліля! Ты глядзіш на справу са сваёй калакольні. Табе добра, бо маеш мужыка /у даны момант/, забыўшыся пра ўсе крыўды, дазнаныя ад яго. А былі гэтыя крыўды не малыя. Кінуў, ні слова не сказаўшы, ад'ехаў. Дзяцей без догляду аставіў, без грошай, без малейшага жалю. Ні дзяцей, ні жонкі яму не трэба было. Гуляў? Пэўна так, ну, бо ж хіба грошай вялікіх ў той час не зарабіў, інакш бы ты пра гэта ведала. Ты ўсё яму прабачыла, бо ізноў твой мужчына быў побач з табой і ты пачала адчуваць сябе паўнацэннай жанчынай. Гэтага не зразумець 13-гадовай дзяўчынцы, для якой ты - яе маці, а ён - яе бацька. Іншыя справы яе не датычаць. А, зрэшты, мо крыўда за тую паняверку, на якую кінуў цябе з дзецьмі твой муж, душыць яе надалей. Да такой ступені, што яна не ў стане ўспрыняць бацьку як бацьку, хаця і вярнуўся ён дахаты.

Мусіш зразумець дачку. Можа, адчувае яна ў нейкай ступені рэўнасць. Тлумач ёй усё паволі, але надта асцярожна. Такія мужы, як твой, здаецца, любяць паўтараць уцёкі.

**СЭРЦАЙКА**




Дарагі Астроне! У 26/1885/ нумары «Нівы» ад 28 чэрвеня г.г. ты адказаў мне на мой сон, у якім я пісала, што мне прыснілася, быццам я прыйшла ў бальніцу, у якой я калісьці працавала, а там на дзвярах няма ніводнай клямкі. Ты мне тады адказаў, што буду «... месц нейкія непрыемнасці на рабоце. Будуць нейкія дзверы, у якія немагчыма будзе ўвайсці. У кожным выпадку як бы нейкая страта».

А цяпер мушу расказаць, што ў мяне на рабоце здарылася. Была ў мяне пацыентка, якой я займалася каля паўгода. Вельмі шкадавала я гэту маладую кабетку, якая ўпершыню зацяжарыла, але, на жаль, не было упэўненасці, ці шчасліва гэта дзіця народзіць. Вымушана яна была доўгія месяцы лячыцца. Нарэшце, надышоў час нараджэння дзіцяці. Радзілася яно доўга і цяжка. Але ўсё закончылася шчасліва: хлопчык нарадзіўся здаровенькі, маці мела невялікія камплікацыі.

Тады пазваніў 25-гадовы бацька гэтага дзіцяці. Выязджаў тэрмінова за граніцу. Не мог паўстрымацца, каб не глянуць хоць праз шыбіну на сынка, каб не пацалаваць на развітанне жонку. Прасіў, тлумачыў.

Прыехаў з іншага горада. Яму дазволілі сустрэцца з жонкай. Я бачыла, як цалаваліся яны, шчаслівыя. Былі ж прычыны для радасці: нарадзіўся здаровы сынок, і з жонкай нічога не сталася, ды і гэты вось, цікавы і інтратны, выезд за граніцу.

Вечарам у бальніцу пазванілі бацькі гэтай пацыенткі. Паведамлялі, што яе муж, вяртаючыся дадому на матацыкле, забіўся, ударыўшыся на рэзкім павароце ў дрэва. Ляцеў з маланкавай хуткасцю і не ўбачыў паварота. Парадуха ў шоку, а нашы супрацоўнікі - у мала меншым.

Вось вазьмі і не вер снам!

Эва

# СПОСАБ НА БЕСПРАЦОЎЕ

Усе мы памалу пачынаем адчуваць вынікі беспрацоўя. А я, хаця і не працую, дык не наракаю.

Раніцай купляю тры жэтоны і бяруся за тэлефонную кніжку. Пасля набіраю першы нумар.

- Тут кабінет дырэктара дэпартамента, - адзываецца сакратарка.

- Ці можаце мяне з ім спалучыць, - гавару. - Так сапраўды то я з ім спалучаны супольным мінулым! - Хвілінка цішыні і адзываецца мужчынскае «ало».

- Валодзя, - крычу ў трубку, пазнаеш мяне, мой дружа?

- Не памятаю, - адказвае сухім голасам.

- Дык пазвані Станіславу. Ён быў сакратаром партыйнай арганізацыі на маім прадпрыемстве. Вы былі больш знаёмы, паколькі я быў звычайным членам партыі.

- Не крычы так, - спалохаўся Валодзя. - Станіслава не прыпамінаю, але цябе, здаецца, лепш памятаю. Заходзь да мяне!

Мяняю жэтон і званю ва ўстанову, у якой праце многа так званых публічных твараў.

- Стасік! - раву. - Ці ўспамінаеш часам, як арганізавалі мы супольныя экскурсіі?

- Я з вамі? - сыкае размоўца.

- Не са мною, са старымі прафсаюзамі. Ты заўсёды быў блізка народных мас. Але і так нам ставілі закід, што гэта была толькі зручная прычына для выпіўкі. Заўсёды нам вецер у вочы.

- Не гавары так многа, - мармыча той. - Трэба было адразу прыйсці, а не тэлефанаваць.

Астаўся яшчэ адзін жэтон.

- Віншую, Варвара, - крычу на ўвесь паштамт. - Ты так прыгожа апошнім часам заахвочвала да прыватызацыі. Але ты пэўна забыла, што пазнаёміліся мы пры ўборцы.

- Я ніколі прыбіральшчыцай не працавала, - адказвае ганарыста.

- Не, я гавару пра іншае, пра ўборку на суботніках, арганізаваных партыяй. Ты мяне заахвочвала і я прыходзіў.

- Дык прыйдзі да мяне і цяпер. І не ляпай так неразумна.

Ну і іду. Радасна, лёгка, жывы прыклад таму, што навука ідзе на карысць. А за ўсё гэта я абавязаны маму бацьку. У цяжкіх часах камунізму яму таксама лёгка жылося. Ён званіў першаму сакратару партыі і кідаў у трубку:

- Таварыш сакратар, вы мяне памятаеце? Мы пазнаёміліся бліжэй на хрысцінах...

Аднак яму было цяжэй. Ён быў вымушаны збіраць адпаведны запас манет. Жэтонаў яшчэ не было.

**МАРК НЕЙМАН**

# НАЎКА




*Мал. Ігара Варашкевіча.*

### СМЕЙЦЕСЯ НА ЗДАРОЎЕ

*Такую назву мае двухтомнік, які выдаў у Канадзе Васіль Дзідзюк. Прапаную некалькі дасціпных жартаў у перакладзе на беларускую мову з гэтай цікавай кніжкі.*

* * *

Пасля судовага працэсу савецкі пракурор убягае ў пакой, дзе сядзяць яго калегі, і заходзіцца ад смеху:

- Што здарылася Ваня? Чаго ты так смяешся?

- Геніяльны, проста геніяльны палітычны жарт...

- Які?

- Не магу яго паўтарыць!

- Чаму?

- Бо за гэты анекдот я засудзіў таго дысідэнта на 5 гадоў.

* * *

Сакратар райкома прыехаў у Львоў. Зайшоў да цырульніка пагаліцца. Той голіць і кажа:

- Ну і шыя ў вас, таварыш...

- Бо ем сала! - горда адрубіў партыец.

- Па мне хоць чорта лысага ешце, але часцей мыйце шыю!

* * *

Які найкарацейшы анекдот?

- Камунізм.

- А які найдаўжэйшы?

- Праграма КПСС.

* * *

Падходзіць заплаканая бабуля да паліцэйскага і лямантуе:

- Бандыт! Забраў у мяне ўсе грошы... Усё, што назбірала ўкраў...

- А дзе, бабуля, вы тыя грошы трымалі?..

- А тут пад фалдай спадніцы.

- І што не чулі, як ён забіраў?

- Чула, чула, але я думала, што рабіў ён гэта з добрымі намерамі...

* * *

- Ну і як, падабаецца табе ў школе?

- Брэшуць! - адказаў вучань.

- Чаму?

- Бо на дзвярах напісалі 1-шы клас, а мы сядзім на цвёрдых лаўках...

*Прыслаў Валеры Бацей*

# МАКАТРАЗМЫ

### П'ЕДЭСТАЛЬСКІЯ

На адмаўленні ўсіх і ўся настоены,
Зняважваючы мёртвых і жывых,
На п'едэсталы рвуцца буяны,
І одапісцы векавечаць іх.

### САМАВАРШЧЫК

Завары чай -
Глытай!

**СІДАР МАКАЦЁР**

# КАЗКА ПРА ЗДОХЛАГА ВАЎКА

У лесе здох воўк.

Быў ён шкодны, крыважэрны, моцны і спрытны, тэрарызаваў жывёлу, з'ядаў слабейшых, прымушаў да паслушэнства пры дапамозе іклоў і кіпцюроў. Адным словам - воўк. І ў канцы сканаў. У лесе настала сапраўдная эйфарыя.

Звяры доўга святкавалі ўпадак ваўчызму і адраджэнне незалежнасці. Гаварылі яны, што цяпер настане роўнасць. Справядлівасць. Маральнасць. Чысціня. Цнота. Дабрыня. Права. Дэмакратыя. Сумленнасць.

Потым пачаліся дыскусіі, каму перадаць уладу. Пайшлі ліцытацыі наконт таго, якая жывёліна самая роўная. Самая справядлівая. Самая маральная. Самая чыстая. Самая высакародная. Самая цнатлівая. Самая сумленная.

А ў ходзе дыскусіі не заўважылі яны аднаго.

Што глядзяць яны на сябе - ваўком.

**ЗОФІЯ СТЭЦКАЯ**

# РАЗЕТКА НА «У»

**Управа:** 1/ час або месца, калі мы перамяшчаемся ў акрэсленыя абставіны, патрэбнае месца, 2/ частка цэлага, 3/ прымяненне, выкарыстанне /жыта ў сярэдзіне/, 4/ дачка, дачкі, 5/ яна знаходзіцца ў беднасці, 6/ ураджай пасля малацьбы, 7/ ракавіна для нечыстотаў, 8/ соль уранавай кіслаты /можна яе ўлажыць з натуры/.

**Улева:** 1/ было добра, стала дрэнна, 2/ ён валодае /у сярэдзіне ёсць «Лада»/, 3/ узніманне ўверх /канчаецца ходам/, 4/ нешта здзейсненае або зробленае чалавекам, 5/ сын сына, 6/ адзначэнне важнай даты, 7/ вецер, які разбурае, 8/ сугучнасць некалькіх гукаў /у канцы сон/.

**ядань**




Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

Адказ на разетку з 27 н-ра. **Управа:** магніт, мастак, мянтуз, Маршак, Маравы, маруда, малако, мазалі. **Улева:** музыка, магіла, мяснік, мандат, мармур, маршал, морква, малады.

**Ніва**

"Niwa"

ul. Suraska 1, 15-950 Białystok, skr. poczt. 149, tel.210-33.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok, ul. Antoniuk Fabryczny 13.

Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Віталь Луба (в.а. галоўнага рэдактара), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Ян Максімюк, Яўгенія Палоцкая (кіраўнік канцылярыі), Яланта Панфілюк (карэктар), Уладзіслаў Петрук (мастак), Галіна Раманюк і Марыя Федарук (машыністкі), Ада Чачуга (адказны сакратар).

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na IV kwartał upływa 20 sierpnia 1992 r.

2. Cena prenumeraty kwartalnej wynosi 26 000 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje Zakład Kolportażu Prasy i Wydawnictw, Warszawa, ul. Towarowa 28.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 3500 zł., a kwartalnie - 45.500 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK SA, I Oddział Białystok, 370406-207917-132

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.